# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА С.-ГАСПАДАРКІ



№ 13-14

КАСТРЫЧНІК 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць 2 разы ў месяц

№ 13-14 (19-20) | Кастрычнік | 1930 г.



## Па баявому правесьці трэці год пяцігодкі.

Дырэктывы XVI зьезду ЎсеКП(б), XIII зьезду КП(б)Б у галіне рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, зварот ЦК УсеКП(б), ад 3-IX г. г., абавязваюць нас, на парозе трэцяга году пяцігодкі, падлічыць усе дасягненьні і недахопы працы бягучага году, з тым, каб найбольш яскрава выпукліць тыя задачы, якія падлягаюць выкананьню ў трэцім годзе пяцігодкі.

Асноўнымі лёзунгамі, пад якімі павінны праходзіць мабілізацыя ініцыятывы мас саўгасьнікаў, калгасьнікаў і паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, зьяўляюцца—выкананьне 5-годкі ў чатыры гады; выцясьненьне рэштак капіталізму з сельскай гаспадаркі, праз ліквідацыю кулацтва, як клясы, на грунце суцэльнай калектывізацыі; пашырэньне саўгаснага і калгаснага будаўніцтва і сканчэньне ў асноўным калектывізацыі ўсіх бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак к канцу пяцігодкі.

Разам з вялікімі дасягненьнямі, як пабудова Асінбуду, Гомельскага Сельмашзаводу, шэрагу ільняных, малочных, крухмальных і іншых заводаў, узрост калектывізацыі за год больш як у 4 разы, у працы зямельных і калгасна-каапэрат. органаў маецца цэлы шэраг прарываў, прыкладаў дрэннага кіраўніцтва працай па выкананьню плянаў, разьвіцьця сельскай гаспадаркі свайго раёну і па выкананьню заданьняў партыі і ўраду.

Недахопы гэтыя зводзяцца к наступнаму:

1) Амаль поўнае невыкананьне заданьня па арганізацыі сеткі пачатковай вытворчай с.-г. каапэрацыі і каапэраваньня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (выканана 14 проц. заданьня).

2) Выкананьне заданьня па камплектаваньню сьвінпрамгасаў сьвінаматкамі і прамысловых малочных гаспадарак каровамі, менш як на 50 проц.

3) Правал заданьня па сіласаваньню кармоў—выканана каля 2 проц. заданьня.

4) Невыкананьне заданьня па пашырэньню пасяўных плошчаў у часе вясновай пасеўнай кампаніі.

5) Мяжуючы са злачынствам ход с.-г. будаўніцтва ў раёнах (скотных двароў, сьвінарнікаў, сіласных башань і ям, індустрыяльных прадпрыемстваў і г. д.).

6) Недапушчальна дрэнная падрыхтоўка, адсюль і ход уборачнай і азімай пасеўкампаній.

Апроч аб'ектыўных прычын такога становішча ў першую чаргу гэта трэба аднесьці за лік невыстарчальнай працы мясцовых савецкіх, каапэрацыйных, грамадзкіх і іншых арганізацый і ўстаноў, якімі на выкананьне гэтых баявых задач ня была мабілізавана ўся савецкая грамадзкасьць (групы беднаты, вытворчыя нарады пры с.-с, саўгасах і калгасах, аграўпанаважаныя і г. д). Мэтады сацыялістычнага спаборніцтва ва ўсіх формах (ударніцтва, скразныя брыгады, грамадзкі буксір, сустрэчны вытворчы плян і інш.) яшчэ неўкараніліся і ня ўспрыняты ўсёй масай саўгасьнікаў, калгасьнікаў і паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Усіх гэтых хвароблівых зьяў неабходна пазбавіцца ў новым годзе. Такой расхлябанасьці работы апарату ў далейшым не павінна быць. Аснова новага году—с.-г. кампанія 1931 г.—павінна быць арганізавана і праведзена сапраўды па-ўдарнаму, з выкананьнем усіх заданьняў партыі і ўраду.

На трэці год пяцігодкі перад сельскай гаспадаркай БССР высоўваюцца наступныя канкрэтныя, асноўныя задачы:

а) Павялічэньне ў параўнаньні з 1929-30 годам плошчы саўгасаў у сярэднім у 3-4 разы праз пашырэньне тэрыторыі старых саўгасаў і арганізацыю новых, за рахунак зямфондаў, лесфондаў, выяўленьне лішкаў сялянскіх зямель, праз неадкладнае асваеньне няўдобіц і бросавых зямель, прыгодных для с.-г. скарыстаньня, праз іх мэліарацыю.

б) Калектывізацыя 100 проц. батракоў і каля паловы ўсіх бядняцка-серадняцкіх, сялянскіх гаспадарак, на аснове поўнай дабраахвотнасьці, што зразумела не павінна тлумачыцца як „добраахвотны самацёк", а праз папулярызацыю прыкладаў добрай працы і дасягненьняў калгасаў сярод паасобных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, правільнае разьмеркаваньне даходаў, большую ўвагу арганізацыі т-ваў па сумеснай апрацоўцы зямлі і рашучую барацьбу з кулацкай агітацыяй.

в) Далейшае абмежаваньне кулацтва і ліквідацыя яго як клясы на грунце суцэльнай калектывізацыі.

г) Рашучае палепшаньне арганізацыі працы, працдысцыпліны ў саўгасах і калгасах.

д) Бязумоўная актывізацыя працы сыстэмы с.-г. вытворчай каапэрацыі (Райкаапсаюзы і пасялковыя т-вы), праз уцягненьне ў іх 100 проц. застаючыхся па-за калгасамі бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, скарыстоўваючы ў якасьці стымулаў абслугоўваньне сялянскіх гаспадарак складанымі с.-г. машынамі і задавальненьне дэфіцытнымі сродкамі вытворчасьці, толькі праз пасялковыя т-вы.

е) Садзейнічаньне, на падставе стварэньня ў іх абагуленай маемасьці і вытворчасьці (машынныя пункты, скотныя двары і т. п.), перарастаньню пасёлкавых т-ваў у т-вы па сумеснай апрацоўцы зямлі і с.-г. арцелі.

ж) Стварэньне асноўнай базы для снабжэньня працоўных мас саюзу, у першую чаргу, буйных пралетарскіх цэнтраў, прадуктамі жывёлагадоўлі, праз максымальнае пашырэньне стада прадукцыйнай жы-

вёлай у саўгасах, калгасах і паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках.

з) Забесьпячэньне пашырэньня пасеўнай плошчы наогул (па яравым 1931 г. у сярэднім на 14 проц.) і ў асаблівасьці пад тэхнічнымі культурамі (на 57 проц.) з тым, каб проц. лёну ў ільнаводных раёнах заняў ня менш 25 проц. да ўсёй пасеўнай плошчы.

Ня меншую ўвагу павінна заняць пытаньне пашырэньня плошчы прамысловых гародоў (да 50 тыс. *га* па БССР), садоў і пасеваў бульбы, у сярэднім 16 проц. ад пасеўнай плошчы, у мэтах забясьпечаньня гэтымі прадуктамі харчавых патрэб працоўных гарадоў. Разам з гэтым такія мерапрыемствы, як увядзеньне рацыянальных севазваротаў, палепшаньне апрацоўкі глебы, праз унядрэньне культурных с.-г. машын і інвэнтару, павялінэньне рэсурсаў угнаеньня, праз рацыянальнае хаваньне гною, ужываньне торфападсьцілкі, кампосту, вапнаваньня, тарфаваньня і зялёнага ўгнаеньня, увядзеньне палепшаных гатункаў насеньня, праз выросьліваньне яго ў спэцыялізаваных гаспадарках на вываз. Ачыстку і пратручваньне насеньня і поўнае выкананьне аграмінімуму наогул, неабходна праводзіць у максымальна-шырокім ахопе і па-баявому, каб забясьпечыць належны тэмп падвышэньня ўраджайнасьці ў саўгасах, калгасах і аднаасабовых бядняцка-серадняцкіх гаспадарках.



Садзейнічаньне найбольш плянамернаму абмену прадуктаў с.-г. вытворчасьці на тавары прамысловасьці, паміж горадам і вёскай, шляхам закантрактаваньня ўсёй таварнай прадукцыі расьлінагадоўлі і жывёлагадоўлі ў калгасах і паасобных гаспадарках.

Каранное павышэньне якасьці скарыстаньня трактароў і складаных с.-г. машын, праз абавязковае ўвядзеньне ня менш як двухзьменнай іх працы ў адпаведныя сэзоны, нагляд, каб праца трактара адбывалася пры поўнай нагрузцы, каб сваячасова ішло здавальненьне запаснымі часткамі, гаручымі і змазачнымі матар'яламі.

У зьвязку з гэтым, трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на арганізацыю і работу МТС і трактарных калён.

Узмацненьне ўвагі індустрыялізацыі сел.-гаспадаркі, устанаўленьне нагляду, з боку земорганаў, за падрыхтоўкай і ходам с.-г. будаўніцтва (прамысловага, гаспадарчага і жыльлёвага), каб пазбавіцца ад таго злачыннага становішча, у якім да гэтага знаходзілася гэтая справа.

Разгортваньне мерапрыемстваў па шляхаваму будаўніцтву, паколькі добрыя шляхі зьяўляюцца аднэй з неабходных тэхнічных умоў для разьвіцьця с. г. праз актывізацыю адпаведных арганізацый і мабілізацыю на гэта сіл і сродкаў самага мясцовага насельніцтва (самаабкладаньне і інш.).

Забясьпечаньне ўсіх гэтых мерапрыемстваў адпаведнымі кадрамі, шляхам выяўленьня новых сіл, арганізацыі ў зімовы час курсаў і лепшай расстаноўкі і скарыстаньня маючыхся кадраў.

Узмоцненая мабілізацыя на ажыцьцяўленьне ўсіх гэтых мерапрыемстваў сродкаў самага насельніцтва (калгасаў і паасобнікаў), праз актыўны ўдзел зямельных і калгасна-каапэрацыйных органаў у пасьпяховым спагнаньні тэрміновых і пратэрміновых с.-г. крэдыт. т-вам пазык, зборы крэд. т-вамі мэтавых укладаў-авансаў, разьмяшчэньні акцый трактара-цэнтру, рэалізацыі дзяржаўных пазык, самаабкладаньні, збору паёў і спэцыяльных узносаў у крэдытныя т-ва і пасёлковыя т-вы і інш.

Неабходна рашучым чынам палепшыць якасьць плянаваньня ў раёнах, у сэнсе дакладнага вывучэньня ўсіх галін і працэсаў гаспадаркі раёну, сваячасовага ўстанаўленьня плянавых заданьняў і давядзеньня іх у зразумелай форме да кожнай гаспадарчай адзінкі, а таксама ўстанаўленьня станоўчага кантролю за ходам выкананьня плянаў.

Заданьні гэтыя павінны быць сваячасова даведзены ў яскравай і канкрэтнай форме да кожнага саўгасу, калгасу і бядняцка-серадняцкага сялянства. Энтузіязм і энэргія масы саўгасьнікаў, калгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх гаспадарак павінна быць мабілізавана на выкананьне гэтых заданьняў.

Мясцовым савецкім, партыйным і грамадзкім арганізацыям неабходна ў такой ступені разгарнуць навакол гэтых задач растлумачальную кампанію, каб насустрач гэтым заданьням, зьнізу ад самых мас саўгасьнікаў, калгасьнікаў і паасобных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, былі высунуты сустрэчныя пляны, з яшчэ больш шпаркімі тэмпамі сацыялістычнай рэканструкцыі і ўзросту сельскае гаспадаркі раёну. Каб у працэсе выкананьня гэтых плянаў былі ў самай шырокай ступені разгорнуты сацыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва і мэтады грамадзкай узаемадапамогі адстаючым—грамадзкі буксір і г. д., бо толькі пры гэтых умовах можа быць, бязумоўна, забясьпечана выкананьне ўсіх гэтых задач.

А. Плышэўскі.

**„Да канца пяцігодкі калектывізацыя СССР у асноўным павінна быць скончана“ (Сталін).**

# Чарговыя задачы калгаснага будаўніцтва.

У выніку шпаркага тэмпу індустрыялізацыі і замацаваньня вытворчай змычкі рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства; у выніку рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты вёскі, у выніку бязьлітаснай барацьбы з ухіламі Камуністычнай партыі ўдалося дасягнуць рашучага пералому ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі. На працягу апошняга году мы мелі магутны зрух у справе калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, які знамянуе вялікі пералом у разьвіцьці сельскае гаспадаркі БССР. Колькасьць калгасаў з 994 на 1-е кастрычніка 1928 году павялічылася да 1713 на 1-е кастрычніка 1929 году, дасягнуўшы лічбы 3021 на 1-ае мая 1930 году. У адпаведнасьці з гэтым колькасьць калектывізаванага насельніцтва за мінулы час павялічылася з 44.614 да 395.628 душ. Разам з павялічэньнем колькасьці калгасаў і калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак ідзе значнае ўзбуйненьне саміх калгасаў. Сярэдняя зямельная плошча аднаго калгасу з 95 *га* ў 1928 годзе павялічылася да 197 *га* ў 1929 годзе, складаючы ў сучасны момант 397 *га*.

Гэтыя посьпехі вельмі яскрава сьведчаць аб тым, што дробныя малатаварныя сялянскія гаспадаркі сапраўды пераходзяць да буйнага соцыялістычнага землеробства. Прыведзеныя лічбы, а таксама і пасьпяховыя вынікі веснавой кампаніі 1930 г. сьведчаць аб тым, што сяляне, уступіўшы ў калгасы, цьвёрда сталі на калектыўны шлях, даказаўшы гэта таварыскім засевам соцень тысяч *га*. Аб гэтым таксама яскрава сьведчыць і тое, што ўдзельная вага калгасаў у яравым кліне павысілася да 16 проц. ад агульнага яравога кліну па БССР. Павысілася вытворчасьць працы у параўнаньні з аднаасабовымі гаспадаркамі.

У той час, як у калгасах на адну адзінку цягавай сілы прыпадае 5,73 *га* пасеву, а аднаасобных гаспадарках—3,62 *га*. Тое самае нагляддаецца і адносна нагрузкі аднаго працаздольнага. У калгасах на 1-го працаздольнага прыпадае 2,41 *га*, а ў аднаасобных сялянскіх гаспадарках—1,32 *га*. Гэтыя лічбы гавораць самі за сябе і не патрабуюць дадатковых тлумачэньняў. Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што ў часе вясеньняй пасеўнай кампаніі калгасы бліскуча вытрымалі іспыт. Вынікі вясеньняй пасеўнай кампаніі 1930 году яскрава паказалі, што калі толькі-што організаваныя калгасы змаглі так пасьпяхова правесьці вясеньнюю пасеўную кампанію, дык якія яшчэ вялізарнейшыя магчымасьці закладзены ў гэтай новай організацыі сельскай гаспадаркі.

Аднак, дасягнутыя посьпехі былі-б значна большымі, як адзначыў XIII Зьезд КП(б)Б—„Калі-б ня былі дапушчаны з боку шэрагу організацый памылкі і скрыўленьні лініі партыі ў справе калектывізацыі. Гэтыя памылкі выявіліся: у няправільных адносінах да серадняка, недаацэнцы саюзу з ім, ва ўжываньні прымусовай калектывізацыі, дапушчэньні адміністраваньня пры організацыі калгасаў, з прымяненьнем пагроз і рэпрэсій да сераднякоў, нежадаючых пакуль-што ісьці ў калгасы, чым парушаўся ленінскі прынцып калектывізацыі, заснаваны на добраахвотнасьці; у прымусовым аграмаджаньні ўсяго і ўсяе (птушак, авечак, нетаварна-прадукцыйнай малочнай жывёлы) і ў пераскокваньні праз ніжэйшыя і сярэднія формы калгасаў да камун, ня маючы для гэтага неабходных умоў, а таксама ў беспадстаўным стварэньні „гігантаў“, у дапушчэньні раскулачваньня паасобных серадня-

коў, і ў шэрагу выпадкаў пазбаўленьня іх выбарчых правоў; у безадказным павышэньні тэмпу колектывізацыі ў шэрагу акруг і раёнаў“.

Рашучае выпраўленьне дапушчаных на мясцох скрыўленьняў і памылак у галіне колектывізацыі і мобілізацыі шырокіх мас вёскі вакол барацьбы за генэральную лінію партыі, на паставе пастаноў XIII Зьезду КП(б)Б і XVI Зьезду УсеКП(б) утварылі добры грунт да далейшага ўзмацненьня і росту калгасаў, да новага ўздыму калгаснага руху. Пасьля XIII Зьезду КП(б)Б колькасьць калгасаў у БССР павялічылася на 62 адзінкі, а колькасьць колектывізаваных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх двароў—на 6000. Кожны дзень прыносіць усё новыя і новыя весткі аб уздыме хвалі калгаснага прыліву. Асабліва вялікую ролю ў гэтым напрамку адыграла пасьпяховая ўборка ўраджаю ў калгасах і правільнае яго разьмеркаваньне паміж калгасьнікамі.

Гэтую хвалю, якая па меры пасьпяховага правядзеньня ўборкі ўраджаю і яго разьмеркаваньня, па меры пасьпяховага разгортваньня асеньняга севу, будзе ўсё ўзрастаць, партыйныя, савецкія, калгасныя і коопэрацыйныя організацыі павінны сустрэць падрыхтаванымі. Ніякай надзеі на самацёк не павінна быць.

Уся практычная работа вясковых організацый павінна быць пабудавана так, каб яна садзейнічала далейшаму разгортваньню калгаснага руху. Між тым весткі, паступаючыя з месц, сыгналізуюць аб новых перагібах і скрыўленьнях у галіне калгаснага будаўніцтва. Ня гледзячы на паказаньне XIII Зьезду КП(б)Б аб тым, што „далейшы ўзрост калгаснага руху можна забясьпечыць толькі тады, калі са ўсёй рашучасьцю і вытрыманасьцю будуць ўжывацца асноўныя марксыцка-ленінскія прынцыпы колектывізацыі“, у шэрагу месц дапушчаюцца грубейшыя памылкі і скрыўленьні, у выніку чаго ў некаторых раёнах наглядаюцца выпадкі выхаду з калгасаў бядняцкіх і серадняцкіх сялянскіх гаспадарак і нават развал паасобных калгасаў.

У той час, калі трэба разгортваць на падставе дасягнутых посьпехаў далейшы наступ—у шэрагу раёнаў пануе права-опортуністычная надзея на самацёк, а ў некаторых мясцох і „левыя“ загібы ў кіраўніцтве калгасным рухам. Пры чым „левыя“ загібы зачастую пераходзяць у трусьлівае бегства, у апортуністычнае адступленьне ад заваяваных пазыцый. Учарашнія загібшчыкі, дапускаўшыя грубейшыя антысераднякцкія ўчынкі, падмяняўшыя масавую растлумачальную работу голым адміністраваньнем; гнаўшыяся за дутымі лічбамі колектывізацыі, пасьля таго, як іх партыя аддзёрнула, пачынаюць блакіравацца з правымі опортуністымі. Учарашнія загібшчыкі выбіраюць шлях самацёку, адмаўляючыся ад барацьбы за калгас і за кожнага хістаючагася калгасьніка.

Ня гледзячы на зусім выразныя і зразумелыя прапановы НКЗему і Калгасцэнтру БССР аб давядзеньні да калгасьнікаў усіх дырэктыў партыі і ўраду па пытаньню аб разьмеркаваньні ўраджаю, гэтага па шэрагу раёнаў яшчэ ня зроблена. Напрыклад, абсьледваньне па Быхаўскаму, Слуцкаму і іншым раёнам выявіла, што шэраг калгасаў не абгаварылі пытаньня аб разьмеркаваньні ўраджаю і нават ня ведаюць пастаноў партыі і ўраду па гэтаму пытаньню. Больш таго, у Чырвона-Слабодзкім раёне нават некаторыя раённыя адказныя працаўнікі самі ня ведалі і ня чыталі ліста НКЗ і Калгасцэнтру БССР аб разьмеркаваньні ўраджаю ў калгасах. Замест таго, каб вакол пытаньняў разьмеркаваньня разгарнуць шырокую гаспадарча-політычную кампанію, ў якую былі-б уцягнуты ўсе калгасьнікі,—шэраг раёнаў імкнуцца вы-

рашыць гэтыя пытаньні ў габінэце, ажыцьцяўляючы кіраўніцтва пры дапамозе абежнікаў.

Адначасова з гэтым, у некаторых мясцох мясцовыя працаўнікі, указаньне аб тым, што ня трэба рэглямантаваць кожны крок калгасьніка, зразумелі як адмову ад кіраўніцтва разьмеркаваньнем ураджаю ў калгасах. Гэта яўна права-опортуністычная ўстаноўка, таксама як імкненьне ўсё дэкрэтыраваць зьверху, утвараючы добрую глебу для кулацкай агітацыі, каб перашкаджаць калгаснаму руху.

З памылак і скажэньня ў галіне разьмеркаваньня прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах неабходна ў першую чаргу падкрэсьліць наступнае:

1) Імкненьне разьмеркаваць прыбыткі і ўраджай па едаках бяз усякага вучоту працоўнага ўдзелу таго, альбо іншага калгасьніка ў колектыўных работах. Такія настроі асабліва ярка выявіліся ў Быхаўскім раёне.

2) Устанаўленьне норм спажываньня для калгасьнікаў, альбо інакш кажучы ўстанаўленьне пайкоў. На такі памылковы шлях сталі ў Клімавіцкім, Жлобінскім і інш. раёнах.

3) Ігнарырваньне дырэктыў аб адлічэньні 5 проц. з валавога ўраджаю і прыбыткаў ад абагуленых калгасьнікамі кароў, для разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі адпаведна кошту абагуленай імі маемасьці.

4) Імкненьне абагуліць азімыя індывідуальныя пасевы бяз згоды калгасьнікаў. Такія выпадкі мелі месца ў Самахвалаўскім, Ліозьнянскім і інш. раёнах.

Ня менш буйныя памылкі дапушчаны ў шэрагу раёнаў у галіне хлебазагатоўчай кампаніі.

Шмат якія раёны зусім ня выконваюць дырэктывы ўраду аб тым, што калгасы БССР у абавязковым парадку павінны даваць ня больш $^1/_8$ часткі валавога ўраджаю. Падменьваюць арганізацыйна-растлумачальную работу аб здачы калгасамі сваіх таварных лішкаў дзяржаве ў дабраахвотным парадку голым адміністрваньнем, у выніку чаго, напрыклад, у Ліозьнянскім раёне райкалгассаюз у сваім пляне намеціў узяць у калгасах усё збожжа, заставіўшы ім акрамя насеннага і кармавога фондаў толькі па 9 пудоў жыта і $^1/_2$ пуда ярыні на калгасьніка. У гэтым-жа раёне поўнасьцю ігнаруецца пастанова СНК СССР аб тым, што калгасы, засеяўшыя больш 10 проц. ільну, аслабаняюцца ад абавязковай здачы хлеба і зусім ня ўлічаны патрэбы сьвінаводных калгасаў у концэнтраваных кармох.

У шэрагу раёнаў (Крычаў, Чарэя і інш.) да складаньня пляну хлебазагатовак падыйшлі бюрократычна, без высьвятленьня на месцы сапраўдных лішкаў, якія калгас можа здаць.

Разам з тым трэба адзначыць, што ў шэрагу раёнаў у адносінах да хлебазагатовак наглядаюцца надзеі на самацёк і ніякай растлумачальнай работы сярод калгасаў і калгасьнікаў за здачу ўсіх лішкаў не вядзецца. Гэта ў той час, калі ў некаторых калгасах ёсьць імкненьне захаваць свае сапраўдныя лішкі і як мага менш прадаць хлебазагатоўчым організацыям.

Усе гэтыя памылкі і скажэньні генэральнай лініі партыі ўсямерна скарыстоўвае кулак. Пасьпяховае правядзеньне веснавой сяўбы паслабіла ў некаторых мясцох барацьбу з кулацтвам. Між тым, кулак яшчэ не дабіты. Ён яшчэ не паклаў зброі. Гэта асабліва ярка выяўляецца зараз у час уборкі ўраджаю і яго разьмеркаваньня.

Праўда, ад адкрытай барацьбы, ад адкрытых пагроз, кулак перайшоў на падпольную, падрыўную работу. Ён рэдка рашаецца зараз на адкрытае выступленьне, а вядзе работу пры дапамозе падстаўных асоб, пры дапамозе падкулачнікаў. У барацьбе супроць калгасаў кулакі прыбягаюць да ўсё новых і новых хітрасьцяй. Напрыклад, пасьля XVI Зьезду УсеКП(б) кулакі пачалі распускаць чуткі, што „партыйны зьезд у Маскве пастанавіў адкласьці колектывізацыю“.

Не адмаўляюцца кулакі і самі пайсьці ў калгас, каб знутры шкодзіць калгаснаму руху.

Характарны прыклад кулацкая тактыкі ў барацьбе супроць калгасаў паведамляюць з Слуцкага раёну. Там кулакі, каб дабіцца разбурэньня калгасаў, ужываюць такія мэтоды: „Падкулачнікі, якія раней не жадалі ўступаць ў калгас, раптам актыўна імкнуцца папасьці ў калгас з тым, каб яго дэзарганізаваць унутры, паводле кулацкіх паказаньняў, весьці сярод калгасьнікаў антыкалгасную агітацыю і тым самым выклікаць хаця-б частковы адліў. Такі факт меў месца ў калгасе „Батрак“. Тут, пасьля таго, як некалькім падкулачнікам удалося пралезьці ў члены калгасу, раптоўна „зьніклі“ розныя часткі да жняярак і касарак, калёсы на жалезным хаду, папсаваліся сельска-гаспадарчыя машыны. Кулаччо парашыла пры дапамозе падкулачнікаў спрабаваць зусім разбурыць калгас „Батрак“. І вось, адразу са складу калгасу выходзяць 5 падкулачнікаў. Пачынаецца „буза“ праз сенажаці. Як вядома, калгас ня мае права адводзіць сваю сенажаць былым калгасьнікам, якія з выхадам з калгасу становяцца аднаасобнікамі. Але ўсё-ж кулакі скарысталі створанае імі-ж становішча для таго, каб штучна ўзьняць канфлікт. Арганізуецца захоп падкулачнікамі—былымі калгасьнікамі калгаснай сенажаці. Гэта робіцца кулаком для таго, каб паказаць шырокай масе аднаасобнікаў, што калгас „крыўдзіць“ тых беднякоў і сераднякоў, якія не знаходзяцца ў калгасе і што з прычыны гэтага трэба дабівацца свайго гвалтам“.

Такія выпадкі не адзіныя.

Трэба адзначыць, што добрую глебу для кулакоў у іх барацьбе супроць калгасаў утварае слабая работа з аднаасобнымі бядняцкімі і серадняцкімі сялянскімі гаспадаркамі, яшчэ ня ўступіўшымі ў калгас, і слабая работа з беднатой.

У шэрагу месц узаемаадносіны паміж калгасьнікамі і аднаасобнікамі зусім ненормальныя. У шэрагу месц калгасьнікі надзвычайна дрэнна адносяцца да аднаасобнікаў, забываючы, што сёньняшні аднаасобнік—гэта заўтрашні калгасьнік. Некаторыя калгасы адмежаваліся ад аднаасобнікаў мураванай сьцяной. Яны ня толькі ня выконваюць партыйнай пастановы аб дапамозе бядняцкім і маламоцным гаспадаркам, але нават не жадаюць і ўстанавіць з імі добрыя ўзаемаадносіны.

Нельга ні на хвіліну забываць, што выразнасьць у ажыцьцяўленьні лініі партыі ў галіне колектывівацыі, бязьлітасная барацьба з усялякімі скажэньнямі гэтай лініі і асабліва з найбольш небясьпечным—правым ухілам—зьяўляецца асноўнай умовай, якая забясьпечвае далейшае разгортваньне калгаснага руху.

Упартая работа сярод батрацтва і беднаты, уздым актыўнасьці самых шырокіх пластоў працоўных жанчын і моладзі, рашучая і бязьлітасная барацьба з кулаком—вось у чым аснова работы.

Асноўным і галоўным мэтодам работы павінна быць жывое інструктаваньне і масавая растлумачальная работа, шырока скарыстоўваючы

прыклад лепшых калгасаў і ўмела організуючы паказ вынікаў колектыўнае працы калгасьнікаў.

Трэба ўсе дырэктывы партыі і ўраду, а таксама тлумачэньні НКЗему і Калгасцэнтру БССР давесьці да кожнага калгасьніка. Трэба, як мага, шырэй, улічваючы конкрэтныя асаблівасьці кожнага калгасу і скарыстоўваючы прыклады лепшых калгасаў,—растлумачыць наступныя асноўныя прынцыпы ў справе разьмеркаваньня прыбыткаў і ўраджаю:

1) Разьмеркаваньне прыбыткаў і ўраджаю, як правіла, павінны вытварацца па колькасьці і якасьці затрачанай працы, дапушчаючы толькі ў паасобных выпадках разьмеркаваньне ня больш 1/4 часткі падлягаючага разьмеркаваньню фонду па едаках.

2) 5 проц. валавога ўраджаю і прыбыткаў ад абагуленай жывёлы разьмяркоўваюцца паміж калгасьнікамі адпаведна кошту абагуленай маемасьці.

3) Адлічэньні ў непадзельны фонд павінны быць устаноўлены 10% і грамадзкія фонды—5 проц. Гэтыя адлічэньні робяцца з валавога прыбытку за вылікам: а) насеннага фонду; б) фуражнага фонду для абагуленай жывёлы; в) адзінага с.-г. падатку; г) выдаткаў па страхоўцы маёмасьці і пасеваў калгасу.

4) Азімыя і яравыя пасевы, утвораныя калгасьнікамі да ўступленьня ў калгас застаюцца ў распараджэньні пасеўшчыкаў. Калгасы павінны аказваць дапамогу ў уборцы гэтых пасеваў.

5) Неабагуленая жывёла калгасьнікаў павінна быць забясьпечана кармамі, як правіла, у лік аплаты за працу.

6) Ні ў якім разе не дапушчаць устанаўленьня пайкоў для калгасьнікаў, бо за вылікам часткі ўраджаю, падлягаючай здачы па контрактацыі і гаспадарчых натуральных выдаткаў калгасаў (насеньне, фураж і г. д.) уся зернавая прадукцыя застаецца ў распараджэньні калгасаў і калгасьнікаў.

Адначасова неабходна ўзмацніць растлумачальную работу сярод калгасьнікаў, каб яны свае лішкі зернавой прадукцыі прадавалі дзяржаўным і коопэрацыйным органам.

Заклік Белкалгасцэнтру аб поўным выкананьні пляну хлебазаготовак—трэба давесьці да кожнага калгасьніка і пабудаваць работу так, каб у тэрмін калгасы выканалі гадавы плян хлебазаготовак. Трэба работу пабудаваць так, каб ніводнага кілёграму калгаснага збожжа ня трапіла на прыватны рынак. У справе хлебазаготовак калгасы павінны быць наперадзе і цягнуць за сабою ўсю астатнюю масу беднаты і серадлякоў, ствараючы такую сілу, якая разаб'е ўсе кулацкія хітрасьці і напады.

Неабходна ўзмацніць працдысцыпліну ў калгасах і больш шырока разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Толькі гэтыя мерапрыемствы могуць забясьпечыць сапраўднае выкананьне пляну асеньняй пасеўнай кампаніі. Неабходна мобілізаваць усе сілы і сродкі, каб плян асеньняй сяўбы выканаць поўнасьцю.

Такія самыя настроі, як і ў адносіне да асеньняй сяўбы наглядаюцца ў некаторых раёнах і калгасах па пытаньню аб будаўніцтве і комплектаваньні сьвінаводных і малочна-жывёлаводных гаспадарак. Нярэдка можна пачуць, што слабае разгортваньне гэтых мерапрыемстваў тлумачыцца адсутнасьцю цьвікоў, цэмэнту, недахопам рабочых рук, высокімі цэнамі і г. д. Такія разважаньні сьведчаць, што ня ўсе яшчэ калгасьнікі і работнікі калгасных саюзаў зразумелі важнасьць заданьня—паставіць у гэтым годзе ў малочна-жывёлаводных калгасах

40.000 галоў таварных кароў і ў сьвінаводных калгасах—100.000 сьвінаматак. Гэта ў той час, калі Комуністычная партыя, вырашыўшы ў асноўным збожжавае пытаньне, галоўнейшай задачай на бліжэйшы час ставіць разьвіцьцё буйнай социялістычнай жывёлагадоўлі. Трэба ўсім гэтым разважаньням даць рашучы адпор і на справу організацыі жывёлагадоўлі ў калгасах і поўнае выкананьне пляну будаўніцтва сьвінаводных і малочна-жывёлаводных калгасаў кінуць ўсе сілы і сродкі. Соцспаборніцтва, ударніцтва, грамадзкі буксір адстаючых калгасаў і самае шырокае скарыстаньне мясцовых будаўнічых матар'ялаў павінны быць пакладзены ў аснову ўсёй работы ў галіне жывёлагадоўлі.

Наперакор кулацкай агітацыі і права-опортуністычным разважаньням калгасы павінны цалкам выканаць пастаўленую задачу, памятуючы, што ад пасьпяховага вырашэньня яе залежыць разгортваньне социялістычнага будаўніцтва.

*40 тысяч таварных кароў і 100 тысяч сьвінаматак абавязкова павінны быць пастаўлены ў калгасах!*

Правядзеньне ўсіх гэтых гаспадарчых кампаній трэба ўвязваць з організацыяй новага прыліву ў калгасы бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак. Трэба добра ўзразумець, што восень, калі падводзяцца вынікі гаспадарчай дзейнасьці калгасаў і разьмяркоўваюцца ўраджай і прыбыткі, зьяўляецца найбольш спрыяючым часам для ўцягненьня ў калгасы новых колаў батракоў, беднякоў і серадднякоў. Зараз бедната і серадднякі, яшчэ не ўвайшоўшыя ў калгасы, вельмі ўважліва сочаць за разьвіцьцём і дзейнасьцю калгасаў. Таму, зараз неабходна разгарнуць як мага шырэй масавую растлумачальную кампанію сярод аднаасобных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак. Трэба неаслабна весьці напружаную энэргічную работу па ўцягненьню беднаты і серадднякоў у калгасы. Трэба самым рашучым чынам змагацца з недаацэнкай справы організацыі новага прыліву ў калгасы, з надзеяй на самацёк. Такія настроі і думкі зьяўляюцца самай горшай праявай правага опортунізму на практыцы.

Асабліва вялікую ролю ў справе організацыі новага прыліву ў калгасы адыгрывае ўмелы паказ калгасных дасягненьняў. У сувязі з чым справаздачы праўленьняў калгасаў і нават асобных калгасьнікаў перад бядняцкімі і серадняцкімі сялянскімі гаспадаркамі, яшчэ ня ўступіўшымі ў калгасы, набываюць выключна важнае значэньне. Трэба дабіцца, каб кожны калгас адчытаўся перад аднаасобнымі бядняцкімі і серадняцкімі сялянскімі гаспадаркамі і расказаў, якія дасягненьні недахопы маюцца ў яго рабоце. Вопыт шэрагу калгасаў ужо паказаў, што такія справаздачы спрыяюць устанаўленьню правільных і добрых узаемаадносін паміж калгасьнікамі і некалгасьнікамі і выклікаюць новы прыліў батракоў, беднякоў і серадднякоў у калгасы.

Шэраг калгасаў замыкаюцца ад аднаасобнікаў і не вядуць работы па ўцягненьню новых колаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы, бо баяцца, што новыя калгасьнікі будуць карыстацца вынікамі іх працы, у якой яны ўдзелу ня прымалі. Гэтыя апасеньні ня маюць пад сабой ніякай глебы, бо прыбыткі ў калгасах разьмяркоўваюцца па колькасьці і якасьці працы і кожны калгасьнік атрымае тую колькасьць прыбыткаў, якая прыпадае на яго долю суадпаведна працоўнага ўдзелу.

Трэба з гэтымі настроямі, як мага хутчэй пакончыць і дабіцца, каб усе калгасьнікі зразумелі, што, адмаўляючыся ад прыёму новых чле-

наў, яны супярэчаць генэральнай лініі партыі на суцэльную колектывізацыю.

Разам з гэтым неабходна наладзіць работу з беднатой, узмацніўшы па ўсім галінам барацьбу з кулацтвам, якое зараз вядзе шалёную работу супроць усіх мерапрыемстваў Комуністычнай партыі і савецкай ўлады. Трэба памятаць, што кулак недабіты і што ён у сваёй барацьбе скарыстоўвае ўсе сродкі, пачынаючы ад агітацыі і канчаючы забойствамі. Малейшае паслабленьне барацьбы з кулацтвам моцна б'е па замацаваньню і далейшаму разгортваньню калгаснага будаўніцтва.

Ня можа быць ніякага сумненьня, што кулацтва і яго імкненьні будуць разьбіты. Для гэтага трэба весьці самую рашучую барацьбу з недаацэнкай кулацкай небясьпекі, якія-б формы яна ня прымала. Для гэтага трэба ўзмацніць работу з беднатой.

*Усю работу па калгаснаму будаўніцтву трэба паставіць па баявому. Рашуча змагаючыся з адміністраваньнем і перагібамі, неабходна ўзмацніць агонь супроць правага опортунізму.*

Уся практычная работа раённых і вясковых партыйных, савецкіх, калгасных і коопэратыўных арганізацый павінна быць пабудавана так, каб яна садзейнічала замацаваньню існуючых калгасаў і арганізавала новы, яшчэ больш моцны прыліў беднякоў і серадн якоў у калгасы.

**Юр. Стрэле.**



**Сілосныя вежы ў малочным саўгасе „Колпіна“ Ленінградзкай вобласьці.**

„Барацьба за хлеб—барацьба за сацыялізм“ (Ленін).

# Лішкі таварнага хлеба—дзяржаве.

Пад бальшавіцкім кіраўніцтвам камуністычнае партыі рабочая кляса сумесна з батрацка-бядняцкімі і серадняцкімі масамі сялянства дабілася вялізарнейшых посьпехаў у справе індустрыялізацыі савецкага саюзу і перабудовы сельскай гаспадаркі на калектыўных пачатках. Ужо з будучага году новыя індустрыяльныя гіганты (Сталінградзкі трактарны, Ніжагародзкі аўтамабільны і інш. заводы) будуць даваць сацыялістычнаму сэктару сельскай гаспадаркі сотні тысяч трактараў, складаных с.-г. машын, аўтамабіляў і іншых машын. Пабудова новых і новых фабрык і заводаў, забясьпечвае ў сваю чаргу шпаркі ўздым сельскае гаспадаркі праз мэханізацыю, штучнае ўгнаеньне і г. д.

Індустрыялізацыя краіны азначае ўзрост гаспадаркі, узрост рабочае клясы. Інтарэсы сацыялістычнага будаўніцтва патрабуюць поўнага і сваячасовага фінансаваньня плянаў на фабрыках і заводах, поўнага выкананьня плянаў пасеву і ўборкі ўраджаю на калгасных і некалгасных палёх.

Сельская гаспадарка забясьпечвае: сацыялістычную прамысловасьць сыравінай, рабочую клясу—с.-г. прадуктамі.

Вось чаму сваячасовае і поўнае выкананьне плянаў хлебазагатовак мае вялізарнейшае палітычнае і эканамічнае значэньне. Плян хлебазагатовак павінен быць у тэрмін і поўнасьцю выканан. Калгасы БССР у гэтым годзе даюць значную колькасьць хлеба, каля 36.000 тон.

Пад пасевамі ў калгасах БССР звыш 365 тысяч гект., з якіх каля 168,5 тыс. гект. азімых і каля 196,5 тыс. гект. яравых культур. Ураджай у гэтым годзе, за выключэньнем некаторых месц, добры. Па падліку калгасы Беларусі будуць мець таварных лішкаў ня менш 36.000 тон. Згодна пастановы Калгасцэнтру і Наркамзему СССР, зацьверджанага ЦВК і СНК Саюзу, калгасы БССР павінны здаць у абавязковым парадку па кантрактацыйных дагаварох ня больш 1/8 ці 12,5 проц. валавога ўраджаю. Саветам Народных Камісараў БССР зацьверджан плян хлебазагатовак ад калгасаў у парадку абавязковай здачы ўсяго толькі 6 проц. валавога ўраджаю, што складае 17.625 тон. Астатнія 18.375 тон часткі таварных лішкаў хлеба калгасаў каапэрацыя павінна атрымаць у парадку дабраахвотнай здачы калгасамі. Улічваючы тое, што ня ўсе калгасы БССР зьяўляюцца аднолькава моцнымі, таксама ў розных раёнах розны ўраджай, нават у адным і тым-жа раёне адзін калгас мае зернавы напрамак, а другі спэцыялізаваны, як сьвінагадоўчы ці ільнаводны, таму нельга ўсім калгасам даць аднолькавую норму здачы (прадажы) хлеба.

Таму Наркамгандаль, па ўзгадненьню з Белкалгасцэнтрам—устанавіў нормы здачы (прадажы) з валавога ўраджаю для былых паасобных акруг. Нормы зьяўляюцца сярэднія. Был. акруговыя арганізацыі ўстанавілі сярэднія нормы здачы па кожнаму раёну, а Райвыканкомы сумесна з Райкалгасна-каапэрацыйнымі саюзамі—устанавілі абавязковыя нормы здачы хлеба для кожнага калгасу, выходзячы з ураджайнасьці, напрамку гаспадаркі, налічча едакоў і г. д.

Такім чынам, у складаньні плянаў хлебазагатовак мясцовыя раённыя арганізацыі ўдзельнічалі самым непасрэдным чынам. Гэтым за-

бесьпячалася найбольш правільнае ўстанаўленьне норм абавязковай здачы хлеба паасобнымі калгасамі.

Трэба прама сказаць, што гэты мэтад у асноўным поўнасьцю сябе апраўдаў. Мы ня маем ніводнай скаргі калгасаў на няправільнае ўстанаўленьне нормы абавязковай здачы хлеба. Аднак, у данай адказьнейшай справе на мясцох дапушчан шэраг памылак і скрыўленьня дырэктыў. Напрыклад, на Віцебшчыне і іншых мясцох плян хлебазагатовак па калгасам значна павялічан. У выніку чаго Лезьнянскі Райкалгассаюз у сваім пляне намячаў узяць ад калгасаў усё зярно, заставіўшы ў калгасе, акрамя насеннага і кармовага для жывёлы фондаў—па 9 пудоў жыта і 1 з паловай пуда ярыны на 1 едака-калгасьніка, гэта значыць, устанавіў пайкі для калгасьніка, што катэгарычна забараняецца.



Выгрузка зярна на ст. Курск.

Пытаньне хлебазагатовак, прадажы калгасамі сваіх хлебных таварных лішкаў нельга аддзяляць ад пытаньня разьмеркаваньня ўраджаю калгасу. Каб ведаць свае таварныя лішкі, калгас павінен перш-наперш падлічваць свой валавы ўраджай. Потым адлічыць на насеньне, на ўтрыманьне абагуленай жывёлы, на аплату сельска-гаспадарчага падатку, на страхаваньне абагуленай жывёлы, пасеваў і будынкаў, на стварэньне непадзельных капіталаў і фондаў, на пакрыцьцё запазычанасьці, адлічыць 5 проц. у фонд для разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі адпаведна абагуленай імі маемасьці і адлічыць 2—3 проц. на гаспадарча-адмін. выдаткі калгасу. Уся астатняя колькасьць ураджаю калгасу падзяляецца паміж калгасьнікамі прапарцыянальна колькасьці працадзён, прапробленых кожным калгасьнікам у калгасе.

Вядомая справа, што пры такім парадку разьмеркаваньня ўраджаю кожны ядак-калгасьнік атрымае ня 9 пудоў жыта, а ў залежнасьці ад ураджайнасьці і працы ў калгасе. Пры такім парадку разьмеркаваньня паўстае пытаньне: як-жа калгасы выканаюць прадугледжаныя плянам хлебазагатовак 18.375 тон, акрамя абавязковай здачы, бо ўвесь ураджай, за выключэньнем паказаных адлічэньняў, падзяляецца паміж калгасьнікамі?

У першую чаргу калгасы здаюць абагуленае зярно, а таксама калгасьнікі чырвонымі абозамі здаюць свае лішкі, як атрыманыя пры разьмеркаваньні ўраджаю калгасу, так і ад пасеваў сваіх аднаасобных палосак.

Вядома, што без адпаведнай растлумачальнай працы сярод калгасьнікаў, бяз удзелу і згоды саміх калгасьнікаў хлеба ня купіш. Свае

таварныя лішкі калгасы і калгасьнікі, як сацыялістычныя ячэйкі, зусім добраахвотна прадаюць, трэба толькі гэта пытаньне ўсебакова абгаварыць. Мы не дапушчаем думкі, што які-небудзь калгасьнік прадасьць свой хлеб прыватніку. Але для таго, каб ён прадаў каапэрацыі трэба абавязкова паехаць у калгас, дапамагчы калгасьнікам падлічыць свой ураджай, разьмеркаваць яго і дагаварыцца наконт здачы таварных лішкаў дзяржаве праз каапэрацыю. Пры гэтым трэба імкнуцца ў першую чаргу забясьпечыць калгасьнікаў дэфіцытнымі таварамі.

Пры такім парадку мы не сумняваемся ў тым, што плянавае заданьне хлебанарыхтовак ад калгасаў у памеры 17.625 тон абавязковай здачы па кантрактацыі і 18.375 тон таварных лішкаў—будзе выканана з правышэньнем.

Нажаль, у шмат мясцох раённыя калгасна-каапэрацыйныя саюзы да гэтага адказьнейшага пытаньня падыйшлі вельмі бюракратычна. Замест шырокай растлумачальнай працы, замест вырашэньня пытаньня разьмеркаваньня ўраджаю, устанаўленьня таварных лішкаў хлеба самімі калгасьнікамі, замест дапамогі калгасам,—некаторыя раёны разьмяркоўвалі ўраджай кожнага калгасу ў канцэлярыях райсаюзу без усялякага ўдзелу калгасьнікаў. Зразумела, што ў гэткіх раёнах настрої калгасьнікаў дрэнныя, уплыў кулакоў вялікі, няма прыліву ў калгасы, ёсьць выпадкі выхаду з калгасу найбольш няўстойлівых і несьвядомых калгасьнікаў. Плян хлебазагатовак у такіх раёнах ня выконваецца.

Прыкладам адмоўнай працы, бюрократычнага кіраўніцтва калгасамі, дзе пануе кулацкая агітацыя, праваапартуністычныя настроі,—зьяўляецца Чарэйскі, Бягомльскі і Плешчаніцкі раёны. Наадварот, там, дзе раённыя арганізацыі, у першую чаргу працаўнікі калгассаюзаў і кіраўнікі калгасаў праводзяць дырэктывы партыі, добра правялі растлумачальную працу па разьмеркаваньню ўраджаю і прыбыткаў калгасам, правільна з удзелам калгасаў распрацавалі плян хлебазагатовак, правялі справаздачную кампанію калгасаў—там мы маем вялікі зрух у калгасным будаўніцтве. Тысячы беднякоў і серадьнякоў уступаюць у калгасы (толькі дзесяць дзён у жніўні, па няпоўных зьвестках, у калгасы ўступіла 2.968 сялян. Арганізавана 35 новых калгасаў); калгасы здаюць хлеб больш плянавага заданьня.

Трэба, аднак, сказаць, што нават і там, дзе праводзіцца масавая растлумачальная праца сярод калгасьнікаў, некаторыя таварышы ўпадаюць у крайнасьць. Тут выяўлены два перагібы: першы—гэта ніяк ня могуць абыйціся без устанаўленьня спажывецкіх норм ці пайкоў. Мы рашуча падкрэсьліваем, што там, дзе для выкананьня пляну хлебазагатовак калгасы прымушаны ўстанаўліваць пайкі, спажывецкія нормы, там плян хлебазагатовак складзен няправільна. Трэба абавязкова такія планы перагледзець. Другі перагіб: некаторыя калгасы пад уплывам кулацкай агітацыі і контррэвалюцыйных чутак, прымушаюць праўвялічаныя нормы і гэтым самым штучна памяншаюць свае таварныя лішкі для здачы дзяржаве.

Вельмі небясьпечным зьяўляюцца выпадкі, калі недастаткова ўлічваецца спэцыялізацыя паасобных раёнаў і калгасаў. Па некаторых ільнаводных калгасах пляны хлебазагатовак праўвялічаны, што бязумоўна, дрэнна адаб'ецца на далейшым пашырэньні пасеву ільну.

Вось другі прыклад: Слуцкі райкалгассаюз ставіць перад Белкалгасцэнтрам пытаньне аб забясьпечаньні моцнымі кармамі сьвінагадоўчых калгасаў. Тут, відавочна, раённы плян хлебазагатовак ня ўлічыў

неабходнасьці забясьпечаньня абагуленай жывёлы, у першую чаргу кармамі самога калгасу. Пры такім падыходзе мы сарвем вырашэньне ў першым выпадку забясьпечаньня прамысловасьці тэхнічнай сыравінай (ільном), а ў другім—рабочае снабжэньне мясам. Пакуль ня позна, трэба дапушчаныя памылкі тэрмінова паправіць.

Наогул-жа трэба сказаць, што плян хлебазагатовак ад калгасу зьяўляецца не вялікім, бо ён закрануў толькі частку таварных лішкаў калгасаў. Таму гэты плян павінен быць сваячасова і поўнасьцю выканан.

Зводкі з месц сьведчаць аб нездавальняючым тэмпе здачы калгасамі хлеба. Больш таго, да першага верасьня значная колькасьць калгасаў ніводнага пуда хлеба не здала, у той час, як шмат калгасаў яшчэ ў жніўні свае пляны поўнасьцю выканалі. Адзінымі гутаркамі наконт дрэннага надвор'я, недахопу рабочых рук, с.-г. машын і г. д.—не апраўдаешся. Зараз усякі апартуністы стараецца схавацца за аб'ектыўныя ўмовы, апраўдаць свае ўласныя памылкі, свае бюрократычныя адносіны да адказьнейшай гаспадарча-палітычнай справы, аб'ектыўнымі прычынамі.

Праўленьнем Белкалгасцэнтру зусім правільна было пастаўлена пытаньне перад усімі калгасамі і калгасьнікамі аб поўным выкананьні пляну хлебанарыхтовак да „Дню Ураджаю і Калектывізацыі“ (14 кастрычніка).

Працу па хлебазагатоўкам трэба паставіць па-ўдарнаму. Трэба мабілізаваць усе магчымасьці. Раённыя саюзы павінны паклапаціцца аб тым, каб дапамагчы калгасам, у якіх няма альбо мала малацілак. Трэба арганізаваць так, каб усе складаныя малацілкі перасоўваліся з калгасу ў калгас. Малаціць хлеб у калгасе зараз трэба ня ўвесь, як гэта робяць некаторыя калгасы, а толькі тую частку, якая забясьпечвае пасеў азімых і здачу па хлебазагатоўкам і некаторую частку хлеба для спажываньня на працягу месяца.

Трэба, аднак, падкрэсьліць, што нельга спадзявацца на складаныя малацілкі і чакаць прыезду Райкалгассаюзу на малацьбу. Неабходна безадкладна арганізаваць малацьбу на малацілках, якія ёсьць у калгасе, ці якія зараз магчыма атрымаць ад райсаюзу. Самі калгасьнікі павінны праявіць максымум ініцыятывы і самадзейнасьці для выкананьня сваіх абавязкаў перад рабочым клясай па здачы сваіх лішкаў хлеба сваячасова і поўнасьцю.

Кулак і падкулачнік у час вясеньняй пасеўнай кампаніі спадзяваўся, што калгасьнікі ня змогуць засеяць усю сваю зямлю. На справе аказалася, што калгасьнікі ў сярэднім засеялі ў паўтары разы больш кожнага аднаасобніка, што ўся кулацкая зямля, перададзеная калгасам, скарыстана поўнасьцю, што ўраджай у калгасах лепшы, чым у аднаасобных гаспадарках. Зараз кулак праз сваіх агентаў імкнецца сарваць хлебазагатоўкі, пужаць найбольш няўстойлівых элемэнтаў у калгасах устанаўленьнем пайкоў, чаргою ў каапэрацыі і рознымі іншымі контр-рэволюцыйнымі чуткамі.

Калгасьнікі ўжо паказалі пераважнасьць буйнай калектыўнай гаспадаркі перад дробнай аднаасобнай. Гэтыя калгасы павінны ўзяць адстаючыя калгасы ў справе хлебанарыхтовак, прыборкі ўраджаю і азімага пасеву—на грамадзкі буксір і дапамагчы ім сваячасова закончыць уборку хлеба, сяўбу азімых і выканаць плян хлебазагатовак поўнасьцю і ў тэрмін, даць рашучы адпор кулацтву і яго агентам падкулачнікаў.

**Г. Самусевіч.**

# За пашырэньне існуючых і арганізацыю новых буйных саўгасаў.

Важнейшай задачай у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі зьяўляецца хутчэйшае разгортваньне саўгаснага будаўніцтва. Дырэктывы XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду ЎсеКП(б) прадугледжваюць сапраўды бальшавіцкія тэмпы разьвіцьця саўгасна-калгаснага сэктару. Вырашэньне праблемы жывёлагадоўлі і тэхнічных культур павінна ісьці праз арганізацыю буйных спэцыялізаваных савецкіх і калектыўных гаспадарак.

Пастановай XIII зьезду КП(б)Б даручана: „пашырыць плошчу існуючых саўгасаў і арганізацыю новых саўгасаў з тым, каб да канца пяцігодкі давесьці плошчу ў саўгасах да 600.000 *га* ў першую чаргу за кошт асваеньня новых і мэліараваных зямель“. XIII зьезд у сваім рашэньні прадугледзіў высокія тэмпы будаўніцтва жывёлаводных саўгасаў, за гэтае будаўніцтва мы павінны ўзяцца з усёй энэргіяй, арганізоўваючы буйныя спэцыялізаваныя савецкія гаспадаркі: сьвінарныя, малочна-масьляныя, мясныя, што будзе зьяўляцца важнейшым мерапрыемствам для забясьпечаньня рабочых прадуктамі харчаваньня.

Савецкія гаспадаркі павінны зьяўляцца асноўным рычагом для вырашэньня праблемы жывёлагадоўлі. На тэрыторыі БССР можа разгарнуцца будаўніцтва буйных савецкіх гаспадарак на буйных балотах і забалочаных землях—усесаюзныя буйныя арганізацыі „Скатавод“, малочна-масьляны трэст, аўцавод. На тэрыторыі БССР маюцца буйныя балотныя масывы, якія толькі часткова скарыстоўваюцца, а большая частка гэтых балот зусім не скарыстоўваецца, такіх балот і забалочаных зямель налічваецца 2.600.000 *га*. Уцягненьне гэтай плошчы ў с.-г. скарыстаньне мае, бясспрэчна, вялікае значэньне і патрабуе надзвычайна вялікіх укладаньняў. Пагэтаму прыцягненьне гэтых арганізацый і іх сродкаў у справу асваеньня забалочаных зямель мае надзвычайна вялікае значэньне, і на гэта павінна быць зьвернута асаблівая ўвага з боку НКЗ, які павінен замацаваць за гэтымі арганізацыямі буйныя балотныя масывы.

Выкананьне рашэньняў партыйных зьездаў аб разгортваньні саўгаснага будаўніцтва, аб пашырэньні савецкіх гаспадарак і арганізацыі новых—вытвараецца марудна. Вакол гэтай важнейшай справы ня створана належная грамадзкая думка. Некаторыя РВК і сельсаветы амаль нічога не зрабілі ў справе пашырэньня савецкіх гаспадарак і арганізацыі новых, ня гледзячы на вялікія магчымасьці ва ўмовах БССР пры наліччы вялікай колькасьці нескарыстоўваемых вольных зямель залежных, пераложных, бросавых, хмызьнякоў, зямель запаснага фонду, за лік якіх у асноўным павінна вытварацца пашырэньне саўгасаў і арганізацыя новых.

Па маючымся зьвесткам на 10/IX-30 г. вытварана пашырэньне саўгасаў і арганізавана новых на плошчы—83.151 *га*. Гэтая плошча перададзена наступным трэстам і арганізацыям: Сьвінатрэсту—23.653 *га*, Насентрэсту—21.603 *га*, Белсельтрэсту—22.505 *га*, ЦРК для арганіза-

цыі прыгарадных гародных—малочных гаспадарак—8.330 *га* і ільнапянькасыр'ё—6.600 *га*. Гэта лічба зьяўляецца зусім недастатковай у параўнаньні з запатрабаваньнямі і магчымасьцямі. У некаторых раёнах БССР, асабліва ў Палесьсі маецца вялікая плошча нескарыстоўваемых і нерацыянальна скарыстоўваемых зямель—так званых бросавых зямель, даходзячых да 36 проц. Маецца надзвычайна шмат зямель, якія нерацыянальна, драпежніцкі скарыстоўваюцца, залежы, пералогі, хмызьнякі, якія з посьпехам маглі-б быць прырэзаны саўгасам, альбо для арганізацыі новых саўгасаў. Але галоўная бяда ў тым, што як раёны, так і сельсаветы ня маюць належнага вучоту гэтых зямель і не паставілі перад сабой задачы ўцягнуць гэтыя землі ў сельскагаспадарчае карыстаньне; не заняліся сур'ёзна справай пашырэньня саўгасаў.

Тыя задачы, якія стаяць перад намі,—пашырэньне саўгасаў, падвышэньне ўраджайнасьці сельскай гаспадаркі, павялічэньне таварнасьці—павінны ажыцьцяўляцца з большай рашучасьцю, з большай увагай з боку ўсіх савецкіх органаў, а ў першую чаргу зямельных і тых працаўнікоў, якія практычна ажыцьцяўляюць гэтыя мерапрыемствы. Нарэшце неабходна зьвярнуць увагу і на такую агідна-злачынную справу, што навакол гарадоў і мястэчак маюцца сотні гектараў пустуючых зямель, якія можна з посьпехам скарыстаць для садова-гародных гаспадарак, для забясьпечаньня рабочых гароднінай і садовінай. Такія землі неабходна перадаваць ЦРК пад агародныя гаспадаркі. Наогул, трэба паставіць рашуча пытаньне аб рацыянальным скарыстаньні ўсіх зямель, якія да гэтага часу нерацыянальна скарыстоўваліся.

Пашырэньню саўгасаў павінна быць удзелена максымальная ўвага з боку партыйных, савецкіх арганізацый і навакол гэтага мерапрыемства панінна быць створана належная грамадзкая думка.

**Вайцэховіч.**

**„Было-б памылкова бачыць у нашых саўгасах толькі крыніцу хлебных рэсурсаў. На самай справе саўгасы з іх новай тэхнікай, з іх дапамогай акаляючым сялянам, з іх нябачаным гаспадарчым размахам зьявіліся тэй вядучай сілай, якая аблягчыла паварот сялянскіх мас і рушыла іх на шлях калектывізацыі".**

**(СТАЛІН на XVI зьезьдзе партыі).**

# Параможаны стэп.

*(Нарыс).*

Вякамі ляжаў забыты і закінуты глухі Сальскі стэп. На гэтай зямлі, у стэпу, дзе „свабодна гойсалі зьверы, а чалавек хадзіў палохачаюся“— людзі нічога ня сеялі. Стэпавая трава ды сухі кавыль толькі і расьлі. Шмат гадоў таму назад па гэтай зямлі стары кіргіз ганяў табуны стэпавых коняй графа Трубецкага. Ня было ні паселішчаў, ні вады на гэтай незаворанай цаліне.

Але цяпер гэты мёртвы стэп аджыў. Па ім разносіцца гуд магутных жалезных коняй індустрыі.

Улетку 1928 г. у Сальскія стэпы прыехалі аграномы. Агледзелі зямлю і сказалі, што зямля прыдатная і на ёй будзе пабудавана фабрыка зерня. Падзялілі зямлю на клеткі па 400 *га* ў кожнай, і пачалі будаваць першы ў сьвеце магутны саўгас „Гігант“. Сьпярша будаўніцтва было падобна да цыганскага табару—стаялі адны толькі шатры. Праз месяц—стэп нельга было пазнаць. Пабудаваны гаражы, забегалі аўтамабілі, зазьзяла электрычнасьць. Загулі ў полі трактары і пачалі паднімаць векавую цаліну. І ў першы год „Гігант“ атрымаў заданьне— узараць 50 тысяч *га*, засеяць 15 тысяч *га*. Некаторыя думалі, што гэтае будаўніцтва і такое заданьне—бязглузьдзіца, але рабочыя „Гіганту“ гэтае заданьне ня толькі выканалі, але і перавыканалі—узаралі 67 тысяч *га*. Дзякуючы героізму і энтузіязму рабочых бязьлюдны стэп абярнуўся ў чорназемнае поле.

У Сальскіх стэпах арганізавалася першая конная армія Будзённага. І шмат рабочых, якія калісьці служылі ў Будзённага і на конях біліся з белагвардзейцамі за саветы, цяпер „пераскочылі з сялянскай каняжыны“ на магутнага каня машыннай індустрыі, на трактарах ідуць у паход за сацыялізм.

### Жалезны паход на зямлю.

Саўгас „Гігант“ існуе толькі два гады і цяпер стаў самай буйнай мэханізаванай сацыялістычнай гаспадаркай. Першыя зярнёвыя фабрыкі зьявіліся ў Амэрыцы. У сучасны момант фэрма „Кемпбела“ складаецца з плошчы ў 49 тысяч гектараў і 20 камбайнаў, а саўгас „Гігант“ мае пашы 114 тысяч гектараў і 230 камбайнаў.

У мінулым годзе з плошчы ў 60 тысяч гектараў „Гігант“ даў дзяржаве 3 з пал. мільёны пудоў хлеба. „Гігант“ служыць прыкладам для акалючага сялянства. Ураджайнасьць на палёх саўгасаў, у параўнаньні з навакольнымі сялянскімі палямі, аказалася вышэйшай: па жыту—36 проц., а азімай пшаніцы—на 33 проц., па яравой пшаніцы— на 47 проц. і па ячменю—на 11 проц. Пасеўная плошча павялічана з 60 тысяч *га* да 114 тысяч *га*. Калі ў мінулым годзе сабекошт пуда зерня быў 88 кап., дык у бягучым годзе сабекошт зьніжаны да 60 к.

Рабочы калектыў „Гіганта“ абвясьціў саўгас ударным, і ўсе рабочыя на аснове соцспаборніцтва змагаюцца за высокую вытворчасьць працы, за добрую якасьць, за лепшае кіраваньне машынай. Нявычэрпны энтузіязм, імпэт рабочых пераможа ўсё, адно кепска—мала ведаў па машыннай тэхніцы. У мінулую зіму перападрыхтавалі 730 трактарыстых. Але вось перад самай уборкай саўгас атрымлівае 230 камбайнаў, якіх раней амаль ніхто з рабочых ня бачыў. І ў кароткі

прамежак часу 250 рабочых прапушчаны праз курсы камбайністых. Слабае знаёмства з машыннай тэхнікай адбіваецца на рабоце ў саўгасе. Часамі рабочы, ня ведаючы, з запаленай запалкай лезе ў бак паглядзець, ці шмат там засталося бэнзыны. З-за невялікага псуцьця, паломкі бываюць вялікія прастоі машын. Рабочаму, які нядаўна прышоў з вёскі, прыходзіцца мець справу з рознымі машынамі. А машын у „Гіганце“ шмат, ды да гэтага розных сыстэм. Тут трактары, камбайны „Хольт“, „Катэрпілар“, Віндрбуер“, „Мак-Кормік“, „Пікан Хольт“ і г. д. У саўгасе—больш сотні ўласных грузавых машын і амаль няма коняй.

Увесь рабочы калектыў саўгасу (1635 чал.), узброіўшыся сталёвым канём, ідзе ў вялікі жалезны паход на зямлю, перамагае стыхію, абарачае стэп ва ўрадлівую зямлю.

## Дваццаць дзён—восем мільёнаў.

Уборка новага ўраджаю ў саўгасе „Гігант“ пачалася ў першых чыслах ліпеня. Рабочыя пастанавілі закончыць уборку ў 20 дзён. Проста ня верылася, што 114 тысяч *га* пасеваў можна сабраць у 20 дзён. Але на палёх „Гіганта“ ў гэтым годзе—230 камбайнаў. Камбайны гэта караблі палёў.

Падыходжу да гэтага палявога страшыдла—камбайна, які адначасна малоціць і ачышчае зерне. Невялічкі вусенічны трактар цягне два камбайны. Мы абступілі дзіўную машыну. Яна прайшла каля нас хутка, некаторыя за ёй пабеглі, а некаторыя ўхапіліся за саломатрас, адкуль ляціць салома і мякіна.

Я зайшоў наперад і гляджу, як матавіла прыціскае да нажоў каласы пшаніцы на даўжыні ў 11 крокаў, а потым палатняны конвэер бесьперапынку нясе іх у сярэдзіну гэтага страшыдла. Прайшлі яшчэ 4 камбайны, і паласа пшаніцы ад нас адышла крокаў на 60.

Камбайны рухаліся адзін за адным, прыступалі, і жалезны гул разносіўся па полю. Раптам адзін затрымаўся, і на ім узьняўся чырвоны сьцяг. З дарогі да яго прыімчаўся грузавік „дзяржпрамбуду“, спыніўся каля камбайна, і ў трубу грузавіка пасыпалася зерне. Забраўшы зерне, грузавік па пыльнай дарозе паімчаў у элеватар, на станцыю Трубяцкую. За ім паволі грукацеў, калёсамі шасьці вазоў з пшаніцай, вусенічны трактар.

Грукат камбайнаў, гуд 800 матораў—гэта жалезны гуд, які заражае нас нявычэрпнай энэргіяй, энтузіязмам на барацьбу за сацыялізм.

Жалезны гуд—гэта краіна крочыць да сацыялізму. Гэты гуд сацыялізму, які будуецца, далёка чуваць на Захадзе і Усходзе. У гэты дзень я бачыў на полі прадстаўнікоў працоўных Кітая і Польшчы, якія заявілі рабочым „Гігант“, што яны, „пабыўшы на палёх саўгасу, прайшлі добрую школу сацыялізму і, вярнуўшыся ў свае краіны, аддадуць усе сілы на барацьбу за сацыялізм“.

## Някранутыя сілы.

Да нашай групы экскурсантаў падышоў брыгадзір і расказаў, што камбайн за 8-гадзінны рабочы дзень здымае ўраджай з 20 *га*. Калі ўзяць 23 *га* ўраджайнасьцю 15 *цнт* (каля 90 пуд.) з *га*, дык камбайн прыпыняецца 23 разы для выгрузкі зерня. Трактар з прычэпкай двух

камбайнаў абслужваюць 5 чалавек. За 8 гадзін гэтыя 5 чалавек з 2 камбайнамі з 1 трактарам пасьпяваюць зжаць, абмалаціць і ачысьціць каля 30 *га* зерня.

А рукамі? Сярэдняя сялянская сям'я ў 5 чалавек, працуючы ад усходу да захаду сонца, можа сабраць толькі з 1 *га*. А каб яшчэ абмалаціць ды ачысьціць, трэба затраціць яшчэ два дні. Такім чынам, працуючы ўручную, 5 чалавек могуць сабраць, абмалаціць і ачысьціць за тры дні зерне з аднаго *га*. Значыцца, на 30 *га* 5 чалавек, працуючы ўручную, павінны затраціць 3 месяцы, а з адным трактарам і 2 камбайнамі—8 газдін.

На ўборцы ўраджая ў саўгасе „Гігант" было занята каля 4.000 рабочых, і ўвесь пасеў у 114 тысяч *га* яны сабралі за 20 дзён. Калі-б гэту работу рабіць уручную, трэба было-б мець сотні тысяч рабочых і ўборку расьцягнуць на дзесяткі месяцаў.

Усё поле „Гіганта" разьбіта на 12 вучасткаў. Вучастак гэта цэлы палявы рабочы пасёлак. Рабочыя жывуць у вагонах і шатрох. У канторы 3 вучастку я застаў аднаго вучотчыка.

— Загадчык на „фордзе" паехаў паглядзець на вучастак, ці не перасьпела дзе пшаніца, каб заўтра распачаць там працу,—кажа вучотчык.

У нас на 3 вучастку 10.552 *га* пасеваў, 550 рабочых, 22 камбайны; працуем на дзьве зьмены, па 10 гадзін. Адно кепска: дажджы не даваляюць як сьлед разгарнуць працу. Цяпер працуе ў стэпу другая зьмена, а вечарам загадчык вучастку на кароткай нарадзе разьмяркоўвае нарад на работу на наступны дзень. Кожнаму рабочаму даецца норма выпрацоўкі на рабочы дзень.

Хуцешка перагарнуў некалькі старонак журнала вучотчыка: там зжата, коратка і канкрэтна запісваюцца загады загадчыка вучасткам. Другі таварыш мяне пазнаёміў з жыцьцём і бытам вучастку. На вучастку ёсьць партыйная і камсамольская ячэйкі і розныя грамадзкія арганізацыі. Ёсьць каапэрацыйны ларок, санітарны пункт, паштовае аддзяленьне, чырвоны куток, свая кухня, сталоўка і прачкарня. У некаторых вучастках ёсьць электрастанцыі, свае радыёпрыёмнікі, хлебапякарні і добрыя зімовыя памяшканьні.

У саўгасе—сваіх 100 машын ды машын 300 былі дадзены на час уборачнай кампаніі, але і з імі не спраўляліся вывозіць зерня.

На скрыжаваньні дарог я заўважыў чалавека з паднятым сьцягам.

— Што гэта такое?

— А гэта міліцыянэр рэгулюе рух.

На другі дзень зайшоў у кантору саўгаса. Кантора ў невялічкім памяшканьні станцыі Трубяцкой, акружана з аднаго боку рабочым пасёлкам, а з другога—майстэрнямі і гаражамі.

Дырэктара саўгаса ня было. Памоцнік дырэктара т. Літвіненко пазнаёміў мяне з вытворчай праграмай саўгасу.

У бягучым годзе наш саўгас дасьць дзяржаве каля 8 міліёнаў пудоў зерня. Сярэдні ўраджай—каля 70—80 пуд. з *га*. Кожны дзень мы адпраўляем ад 200 да 300 вагонаў зерня па нарадам зернатрэсту. Уборку закончым у 20 дзён, а потым дапаможам навакольным саўгасам і калгасам: маем на мэце сабраць ім каля 18 тысяч *га* пасеву. І цяпер ужо адна калёна ў 15 машын працуе на палёх калгасаў. У гэтым годзе на базе саўгасу „Гігант" будзе пабудавана шмат халодных і жылых памяшканьняў, у тым ліку 3 дамы-камуны, кожны на 250 чалавек. Заканчваецца пабудова клюбу, школы 2 ступені і кухні-сталоўкі, з прапускной здольнасьцю каля 1.000 чалавек. На на-

ступны год колькасьць пахаты ў саўгасе думаем давесьці да 150 т. *га*.

У галоўнай канторы ідзе напружаная работа. Бесьперапынку трашчаць тэлефонныя званкі і ляцяць апэратыўная зводкі з вучасткаў.

— Транспарт не пасьпявае...

— У першай брыгадзе недавыканана 15 проц., прастою—25 проц.

— За дзень сабралі 176 *га*.

Хутка і чотка аддаюцца загады.

— Перакінуць 2 „катэрпіляры“.

— Дастаць апал.

— Заўтра дадзім яшчэ 6 грузавых.

## Энтузіясты палёў.

У саўгасе „Гігант“ значная маса рабочых зьяўляецца энтузіястымі на вытворчасьці. У 9 брыгадзе рабочыя т. т. Новікаў, Жаркоў, Канстанцынаў і Канавалаў за 311 рабочых гадзін сабралі 178 *га*, замест



**У саўгасе „Гігант“ звозяць збожжа з поля**

дадзеных па норме 126 *га*. У 4 брыгадзе лепшыя ўдарнікі т. т. Марчэнка і Ляшэў за 8 гадзін работы камбайнам далі па 900 пуд. зерня, тады як іншыя даюць ня больш 700 пуд.

Шмат ёсьць рабочых, якія служаць прыкладам працоўнага энтузіязму. Расьце творчая думка рабочай кемкасьці. Камбайністы 4 брыгады Чэрэўкоў вынайшоў снопанос пры снопавязалцы праз 4—5 снапоў. Тав. Чэрэўкоў удасканаліў комбайн. Вынаходка т. Чэрэўкова за адну ўборку дасьць эканоміі да 14 тысяч рублёў. Рабочыя т. т. Іока, Іваноў і Бандарэнка таксама зрабілі шэраг каштоўных вынаходак.

У саўгасе ёсьць рабочы унівэрсытэт, у якім вучыцца 508 рабочых. Расьце культурны і палітычны ўзровень рабочых.

Партарганізацыя саўгасу налічвае ў сваіх шэрагах 377 членаў і кандыдатаў партыі. К XVI партзьезду 150 рабочых падалі заявы аб прыняцьці ў партыю.

Саўгас „Гігант“ дапамагае навакольным саўгасам, калгасам і адзінаасабовым бядняцкім гаспадаркам. У бягучым годзе „Гігант“ 40 калгасам б. Сальскай і Данской акруг заараў і засеяў 34 з пал. тысяч *га* і перадаў насеннага матар'ялу 48 тысяч цэнтнэраў. Арганізавалі 7 калгасаў, якія аб'ёднываюць 1.761 гаспадарку. Адзінаасабовым бядняцкім, серадняцкім гаспадаркам Паўднёвага Уралу саўгас „Гігант“ узараў 32 тысячы *га*, у выніку гэтай работы 30 адзінаасабовых гаспадарак увайшлі ў калгас.

Сваю пяцігодку „Гігант“ выканае ў тры гады.

Мэтадам сацспаборніцтва і ўдарніцтва рабочыя паднімаюць вытворчасьць працы і б'юцца за высокія паказьнікі і якасьць сваёй работы.

У саўгасе арганізаваны таварыскі суд. Парушэньне працоўнай дысцыпліны і розныя праступкі, ганьбячыя годнасьць рабочага, разьбіраюцца таварыскім судом. Так, нядаўна кладаўшчыку 2 вучастку т. Дружба за грубыя адносіны да рабочых і халятныя адносіны да работы абвешчана грамадзкае ганьбаваньне. Кладаўшчыка 7 вучастку за нямэтазгоднае скарыстаньне аўтамашын таварыскі суд аштрафаваў на 16 рублёў і, апрача таго, утрымаў з зарплаты кошт апалу ў разьмеры 6 рублёў.

Пазнаёміўшыся з размахам працы, з яе пастаноўкай яшчэ больш пераконваешся ў правільнасьці генэральнай лініі партыі.

Сяляне, якія на ўласныя вочы бачылі работу „Гіганта“, пераконваюцца ў выгоднасьці аграмаджанай гаспадаркі. „Гігант“ зьдзіўляе ня толькі сялянскія дэлегацыі, але і людзей навукі і чужаземцаў, якія наведвалі саўгас.

Беднякі і сераднякі, якія наведвалі „Гігант“ пішуць:

„Жыць па-старому нельга. Адзінаасабовая гаспадарка нявыгодная. Збавеньне ад жабрацтва і някультурнасьці, сапраўдны ўздым нашай сельскай гаспадаркі ляжыць на шляху пераходу да буйной калектыўнай гаспадаркі“.

„Я як быццам пабываў на курсах сацыялістычнага будаўніцтва“,—піша хлебароб Аляксееў. „Стану цяпер застрэльшчыкам калектывізацыі“,—заяўляе хлебароб Моногараў.

„Няхай ня брэшуць ворагі, што наш урад ня ўмее гаспадарнічаць“,—піша хлебароб Майсееў.

Беднякі і сераднякі, якія наведвалі „Гігант“, натхняюцца магутным імпэтам суцэльнай калектывізацыі.

**М—в.**



Андрэеўскія прэсы на маслабойным камбінаце ў г. Віцебску.

# ШЫРЭЙ ФРОНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

## Калектыўнае жыцьцё пераможа.

*(Вушацкі раён).*

Над возерам, акутаныя пышным садам, застылі высокія цагляныя будынкі былога маёнтку Арэхаўна. Прытульнае гняздо рукамі батракоў пабудаваў пан на сваю радасьць. Сядзеў, любаваўся хараством прыроды, насьміхаючыся, зьдзекваўся над акалючай сялянскай беднатой да таго часу, пакуль гэтая-ж бедната ня кульнула яго дагары нагамі з наседжанага цёплага гнязда. У руках панскіх батракоў і акалючай беднаты засталіся неабсяжныя абшары панскай зямлі, будынкі і маемасьць, якую не пасьпеў зьвесьці за сабою пан.

Зараз тут красуецца калгас „Чырвоны Кастрычнік“, які лічыцца адным з лепшых па раёну. Адразу, калі пад'яжджаем да калгасу, бачым, што тут моцная гаспадарка, упарадкаваная і добра дагледжаная. Ня відаць ніякага развалу гаспадарчых прылад па дварох будынку. Парадак і чыстата пануюць навакол. Ня швэндаюцца людзі бяз справы. Гарачы час уборкі асядае над калгасам і не дапускае дарэмна траціць часу.

У полі працуюць ударныя брыгады. Жняярка, запрэжаная парай коняй, здымае высьпеўшае жыта. З ціхім шолахам нагінаюцца і падкошанымі падаюць жытнёвыя былінкі з каласамі, напоўненымі ядраністым зернем.Назадзе жняяркі—завіхаюцца людзі, зьвязваючы буйныя снапы, складаюць бабкі. Побач з уборкай жыта на сенажацях ідзе касьба. Сюды кінуты мацнейшыя сілы. Скарыстоўваецца кожная хвіліна спрыяючай добрай пагоды. Адны касілкі не спраўляюцца з гэтай работай, і таму на фронт кінуты брыгады касцоў. Зранку да поўдня напоўнены сенажаці мяккім звонам кос і пахам адцьвітаючых палявых кветак.

Адчуваецца ўдарная арганізаваная работа. Сапраўды па-калектыўнаму б'ецца пульс жыцьця гаспадаркі. Адданасьць рабоце і будаўніцтву новай сьветлай будучыні відаць скрозь. Калгасьнікі спаяны адзінай мэтай, адзінай думкай.

Калісьці было інакш.

1924 год стаў годам нараджэньня калгасу. Некалькі гаспадарак захацелі жыць на правох сельска-гаспадарчай арцелі; толькі арцель гэтая была спачатку папяровай, ліпавай. Жылі так званыя арцельшчыкі кожны паасобку, маючы сваю гаспадарку, адна зямля знаходзілася ў калектыўным карыстаньні, ды потым ураджай здымалі разам і дзялілі паміж сабой. Жылі арцельшчыкі, а мары кожнага былі накіраваны на тое, каб набыць сабе прытульны хутарок, моцную ўласную гаспадарку.

Уласьніцкія прывычкі і звычаі пачалі моцна адбівацца на жыцьці арцелі. Да 1928 г. арцель прышла амаль што разбуранай і разваленай. Частка гаспадароў вышла з шэрагаў арцельшчыкаў і накіравалася ў Сібір шукаць лепшай долі, частка вышла зусім на хутары, каб цягнуць такую-ж гарапашную лямку, як і раней.

У арцелі засталося 10 сем'яў. З усёй адданасьцю яны ўзяліся за працу. Прыцягнулі да сябе яшчэ 4 гаспадаркі. Паставілі пытаньне адносна абагульваньня жывёлы. Але тут сустрэліся перашкоды:

— Не хачу аддаваць сваю маемасьць чужым рукам. Сам дагледжу сваё,—заявіў Касьцючэнка.

Знайшліся і другія калгасьнікі, якія падтрымалі Касьцючэнку, прасякнутага кулацкімі настроямі. Толькі гэтая перашкода была зломлена. Абагулілі 26 коняй, 40 кароў, 36 авец і 7 сьвіней. З гэтай маемасьцю павялася калектыўная гаспадарка. Праз некаторы час абсталявалі агульную сталоўку. У сувязі з гэтым кулак, бачачы пасьпяховасьць будаўніцтва калгасу—пачаў весьці шалёную агітацыю.

— У агульнае памяшканьне сагналі калгасьнікаў, харчуюцца разам вадой і хлебам, усё чужое, дзеці абшарпаныя, брудныя ходзяць,—папльілі па вёсцы рознастайныя варожыя чуткі.

— Хутка сарочкі і жонкі нават стануць агульныя.

— Нацешацца калгасным жыцьцём. Будуць прасіцца назад з калгасу ды ніхто іх ня пусьціць.

Асаблівую актыўнасьць праяўляў поп Арэхаўскай царквы. Поп адчынена прыяжджаў да калгасьнікаў, хадзіў па іхніх хатах і „божым словам“ угаварваў пакінуць калектыўнае жыцьцё, выйсьці на „шлях, паказаны богам“. Тады калгасны актыў абвясьціў клясаваму ворагу самую рашучую барацьбу. Павялі растлумачальную работу сярод акаляючай беднаты. З папом наладзілі некалькі дыспутаў з антырэлігійнай мэтай. Поп на дыспутах правальваў і праз некаторы час уцёк зусім ад сваёй царквы. Сяляне-ж Арэхаўскага прыходу вынесьлі пастанову аб перадачы царквы пад калгасны клюб. Так і зрабілі.

Толькі перашкоды былі ня ўсе яшчэ пераможаны. Не хапала сельска-гаспадарчых машын для апрацоўкі абагуленай зямлі. Кепска стаяла справа з жыльлёвым пытаньнем, ня ўсе сем'і былі забясьпечаны больш-менш добрымі памяшканьнямі. Сярод калгасьнікаў час-ад-часу заўважаліся кулацкія настроі. Ня гледзячы на гэта, калгас усё-ж ткі ўзмацніўся. Далучаліся новыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі. Прыходзілі батракі, ня меўшыя нідзе прытулку і перад імі адчыняліся дзьверы новага калектыўнага жыцьця. З кожным днём калгас вырастаў.

А цяпер калгас мае іначкшае аблічча.

Калгас налічвае паўтары тысячы гектараў зямлі і 120 сем'яў. Усе калгасныя абшары разьбіты на пяць падсобных гаспадарак. Маемасьць складаецца з: 80 коняй, 170 кароў, 85 цялят, 95 сьвіней. Гаспадарка ў дастатковай колькасьці машынізавана—маецца 3 жняяркі, 3 касілкі, 1 грабілка, паравая камбініраваная малатарня, свой млын. Пры калгасе працуюць невялікі лесапільны завод і цагельня, якія, галоўным чынам, абслугоўваюць калгас. Існуе рыбацкая арцель, складзеная з калгасьнікаў і даўшая за кароткі тэрмін сваёй работы 18 тон рыбы.

Даволі ўдала разьмяркована калгасная праца. Калгасьнікі разьбіты на асобныя брыгады, на чале з адказнымі брыгадзірамі. Кожны дзень адказным брыгадзірам даюцца нарады назаўтра і яны ўжо разьмяркоўваюць атрыманыя даручэньні паміж калгасьнікамі. Дзякуючы гэтаму, ня траціцца дарэмна рабочая сіла, няма прагулаў, кожны калгасьнік ведае сваю справу. Ужываецца мэтад сацыялістычнага спаборніцтва. Рыбацкая брыгада ўдарным парадкам на працягу трох тыдняў падрыхтавала ўсе неабходныя прылады, якіх ня было зусім, і вышла на возера. Для ўдарнай работы па будаўніцтву скарыстоўваецца ўсё: зьбіраюцца старыя цьвікі, салома, бярвеньне.

— І старыя рэчы можна скарыстаць пры правільнай пастаноўцы справы,—кажа старшыня калгасу т. Гайдар.

Асабліва ўдарныя бальшавіцкія тэмпы былі паказаны пры правядзеньні сёлетняй уборкі. Калгасьнікі на працягу 5 дзён зьнялі 125 гектараў жыта і адразу-ж распачалі малацьбу. Работа праводзілася і праводзіцца строга плянавым парадкам, не адчуваецца таго самацёку, які так часта яшчэ перашкаджае некаторым калгасам наладзіць нармальнае жыцьцё.

Аплата працы членаў „Чырвонага Кастрычніку“ даволі высокая. Працаздольны мужчына атрымоўвае паўтары рублі за рабочы дзень, а жанчына 1 руб. 20 кап.

Пры калгасе арганізавана агульная вялікая сталоўка, якая абслугоўвае ня толькі калгасьнікаў, але і слухачоў трактарных курсаў, якія



**Цяляты калгасу „Чырвоны Кастрычнік“.**

знаходзяцца тут-жа пад бокам. Харчаваньне пастаўлена добра і вышэй 40 капеек у дзень для калгасьнікаў не абыходзіцца.

— Словам, жывём, перамагаем цяжкасьці,—зазначае сакратар партыйнай ячэйкі тав. Сісковіч, апавядаючы пра дасягненьні калгасу. Хутка вось пяройдзем да вышэйшай формы калектыўнай гаспадаркі, да камуны. Зажывём яшчэ дружней!

Наколькі „Чырвоны Кастрычнік“ добра паставіў сваю працу, сьведчыць яшчэ і тое, што кожны тыдзень праўленьнем калгасу атрымоўваюцца заявы адзіналічнікаў з просьбай уступіць у калгас.

Калгас расьце і мацнее з кожным днём. Над берагамі возера разносіцца гул трактароў, шум жывой калектыўнай працы калгасьнікаў, апрацоўваючы былыя панскія абшары, зьнішчаючы спадчыну мінулага, выкоўваюцца сапраўдныя змагары за новую сьветлую будучыню.

**Баз. Румянец.**

# Перативараем думкі Леніна ў жыцьцё.

*(Калгас імя Леніна, Глускага раёну).*

Сярод балот, лясоў Слаўкавіцкага лясьніцтва, у 45 кілёмэтрах ад Глуску, 20 мая 1929 году вырас калгас. У мінулым на гэтым месцы быў панскі маёнтак. Цяжка было наладжваць працу. Рэвалюцыя пакінула свае сьляды на маёнтку Рэйна. Пана ня стала, уся яго маемасьць была разабрана. Калгасу засталася пустая зямля, абора і дрэў 70 старога саду.

Былыя рэйнінскія батракі, якія ўвесь свой час, усё сваё жыцьцё аддавалі пану і нічога ня мелі акрамя сваіх рук—зараз поўныя ўладары свайго жыцьця. Яшчэ здалёку, калі вы будзеце пад'яжджаць да калгасу, вам у вочы кінецца труба камбінату і за 7—8 кілёмэтраў вас абавязкова прывітае паравы гудок, які калгасьнікам служыць сыгналам, што час ужо стаць на работу, або закончыць яе.

За 15 месяцаў калектыўнае аддана працы, пры дапамозе кампартыі і савецкае ўлады былыя батракі шмат у чым маюць дасягненьні. На сёнешні дзень маюць: паравы млын, крухмалку, цыркулярку, кузьнечную і стальмашную майстэрні і інш. прадпрыемствы. Маюць каля 100 дойных кароў, 30 коняй, 40 сьвіней, жарабка, 2 быкоў, 2 кныроў-вытворцаў і шмат іншага.

### Бальшавіцкія тэмпы.

Ня гледзячы на відавочны недахоп рабочае сілы, калгас з посьпехамі выйшаў з веснавой пасеўнай, уборачнай і асеньняй пасеўкампаній. Вясною ня толькі абсемянілі сваю плошчу, але не пакінулі ні аднаго незасеянага кавалку пахаці былшай кулацкай зямлі. Уборачную кампанію праводзілі пад знакам ударніцтва—уборку жыта скончылі за 9 дзён (40 *га*), аўсу (25 *га*) за 4 дні, сенажаці за 17 дзён. Усе сельскагаспадарчыя машыны (жняярка, касілка, грабалка) былі загружаны поўнасьцю і гэтыя машыны больш чым напалову палягчалі працу калгасьнікаў.

Усе с.-г. кампаніі праводзяцца бальшавіцкімі тэмпамі і ні на адну хвіліну не разрывалі іх з ходам будаўнічых работ. Млын, крухмалку збудавалі ўласнымі сіламі. На 1000 пудоў зялёнай масы заклалі сіласную яму.

### Калгас паказвае прыклад.

Свае задачы калгасьнікі зразумелі добра. Яны ведаюць, што паказам павінны прыцягнуць аднаасобнікаў да калгаснага будаўніцтва.

5 верасьня калгас рабіў справаздачу перад аднаасобнікамі вёскі Падгальле. Аднаасобнікі зайздросьцяць калгаснаму жыцьцю і зараз маецца відавочны прыліў новых сяброў. На днях прынялі 7 новых членаў. Хлебазагатоўкі ў ліку 120 пудоў з чырвоным абозам—у сельсавеце наладзілі першыя. Усе да аднаго члены калгасу падпісаліся на пазыку „Пяцігодка ў чатыры гады“, кожны падпісаўся ў сярэднім па 10 рублёў і такім чынам склалі лічбу ў 560 рублёў.

### Змаганьне з цемраю.

Культурным расаднікам у калгасе зьяўляецца школа. Жыцьцё школы цесна пераплятаецца з жыцьцём калгасу. Усеагульнае абучэньне ў калгасе ўжо ўжыта. Газэта, кніжка паступова заваёўваюць сваё месца ў побыце калгасьнікаў,—выпісваецца да 15 розных газэт і маецца бібліатэчка звыш як на 30 рублёў. Улетку не адсьвяткавалі ніводнага рэлігійнага сьвята і наадварот сьвята 1-га мая праводзілі вельмі ўрачыста.

Ня чуваць ужо ў сям'і сваркі, лаянкі—няма за што сварыцца, усё ёсьць. З ахвотаю калгасьнікі выходзяць на работу і няма такіх, якія-б ухіляліся ад працы, або выконвалі-б яе абы з рук. Кожны ведае сваё пэўнае месца ў працы.

**М. Ш.**



Збор бульбы ўдарнай брыгадай у калгасе „Чырвоны Агароднік“.

---

**„Пераход ад гаспадаркі індывідуальнай да гаспадаркі калектыўнай можа ажыцьцяўіцца толькі на аснове саюзу рабочае клясы і беднаты з серадняком...“**

(З рэзалюцыі XVI зьезду ЎсеКП(б).

# Яскравыя праменьні „Чырвонага Факелу“.

У вагні клясавай барацьбы, на руінах дваранскіх гнёзд, у жніўні месяцы 1929 г. на тэрыторыі Расьнянскага раёну ў в. Пячкавічах арганізаваўся моцны калгас „Чырвоны Факел“.

Гэта быў год вялікага сацыялістычнага пералому ў в. Пячкавічах. Бядняцка-серадняцкія масы рашуча павярнуліся тварам да зьнішчэньня той варожасьці, якая панавала ў в. Пячкавічах паміж двумя групамі, так званыя „шляхты“ і „мужыкі“. Кулацкія і антысавецкія элемэнты ўвесь час натраўлівалі адну групу беднякоў і серадdespite някоў на другую, гэтым самым паслаблялі сумесную барацьбу з кулацтвам і іншымі варожымі элемэнтамі, не давалі магчымасьці рашуча прыступіць да карэннай перабудовы вёскі на новы соцыялістычны лад.

Пасьля доўгай і ўпартай барацьбы асобных партыйцаў і бядняцка-серадняцкага актыву з антыкалгаснай агітацыяй, якая шырока распаўсюджвалася з лягеру клясавых ворагаў, в. Пячкавічы агульным сходам сялян была абвешчана суцэльна-калектывізаванаю. З ліку 84 гаспадарак, за выключэньнем 2-3 беднякоў і серадняко ды каля 4-х кулацкіх гаспадарак, для якіх дзьверы ў калгас зачынены, усе бednякі і серадняк лавінай хлынулі ў калгас. Звыш 1000 гектараў зямлі адышло пад малады, але моцны калгас.

На другі дзень пасьля арганізацыі калгасу, калгасьнікі дружнай адзінай сям'ёй вышлі ў поле для падрыхтоўкі глебы пад азімыя пасевы. За восень 1929 г. калектыў залажыў падмуркі пад сваю агульную гаспадарку.

Прыкладаючы ўсе сілы і энэргію, калгас „Чырвоны Факел“ засеяў 204 *га* азімых пасеваў. У гэтую-ж восень (1929) быў пасаджан сад на плошчы каля 15 *га*, узьнята 75 проц. пад зяб, закуплена 46 кароў.

### Будзе фабрыка малака і мяса.

Вакол арганізацыі кармавой базы для жывёлы сканцэнтравана ўся ўвага калгасу. Гаспадарчы напрамак калгасу—жывёлагадоўчы. Такім чынам уся гаспадарчая дзейнасьць калгасу накіравана на ўздым і разьвядзеньне буйнае малочнае жывёлагадоўлі. У сёлетнім годзе калгасам засеяна 115 *га* канюшыны, 0,15 кукурузы, 0,25 турнэпсу і інш.

Як пэўны выхад з бяскорміцы, калгас прыняў пастанову пабудаваць 2 сілосных ямы на 129 тон зялёнай масы.

Акрамя тых кароў, якія маюцца на кожную сям'ю, згодна статуту, на сёнешні дзень маецца абагуленых дайных кароў 65, падцёлкаў 5 і цялят-сасуноў 56. Заканчваецца пабудова вялізарнага хлеву для жывёлы з разьліку на 200 галоў. *У бліжэйшыя два гады калгас „Чырвоны Факел“ будзе мець буйную малочна-жывёлагадоўчую гаспадарку ня менш 500 галоў рагатай жывёлы.*

Цягавай сілай пакуль што ў калгасе зьяўляецца звычайны сялянскі конь. Усяго рабочых коняй у калгасе 60 і жарабят 16.

— Цяжка апрацаваць такі кавалак зямлі пры недастатковай колькасьці рабочай і цягавай сілы,—кажа адзін з калгасьнікаў, але нічога, хутка здабудзем трактар.

## У барацьбе за бальшавіцкую ўборку.

Надыйшла летняя ўборачная кампанія. Падрыхтоўчая работа да ўборкі ўраджаю была праведзена слаба. Частка машын і сельска-гаспадарчага інвэнтару, якім патрэбен быў кузьнечны рамонт, засталіся не адрамантаванымі з-за адсутнасьці кавалёў. Складачных і ссыпных памяшканьняў падрыхтавана ў недастатковай колькасьці. Недастаткова была праведзена работа і ў галіне арганізацыі працы.

Але ўсе гэтыя недахопы не падарвалі энтузіязму ў барацьбе за бальшавіцкае правядзеньне ўборачнай кампаніі. У дзень адчыненьня ўборачнай кампаніі, адна за другой выйшлі ў поле—4 жняяркі, і каля іх патрэбная колькасьць жанчын, каб адразу зьбіраць, вязаць...

## Вось хваравітае месца.

Арганізацыя працы і дысцыпліна—хворае месца ў калгасе. Спэцыялісты-аграном т. Ларыонаў не ўдзяліў дастаткова ўвагі вырашэньню проблемы максымальнага скарыстаньня рабочай сілы, увядзеньню




**Чырвоны абоз калгасу „Чырвоны Агароднік“.**

зьдзельшчыны і інш. Соцыялістычнае спаборніцтвв, як асноўны мэтад уцягненьня адсталых пластоў калгасьнікаў у будаўніцтва гаспадаркі, у калгасе не разгорнута. Тав. Ларыонаў, будучы куставым аграномам, не паклапаціўся аб тым, каб арганізаваць спаборніцтва паміж калгасамі свайго сельсавету. Аднак, у калгасе „Чырвоны Факел“ за адзін год яго дзейнасьці вырасьлі новыя людзі, якія сталі сапраўднымі змагарамі за справу калектывізацыі. Маладыя ўдарнікі і ўдарніцы, не шкадуючы сіл, ня лічачыся з часам, працуюць на любой рабоце, куды іх накіруе праўленьне.

Бяда толькі ў тым, што гэтым ударнікам не знаходзілася пакуль што пачэснага месца ўнутры калгасу. Прэміраваньня, вынясеньня па-

дзякі за пачэсную работу і шмат іншых пераваг праўленьне арцелі да гэтага часу ня ўжывала. Ня ўжывалася ніякіх выхаваўчых мер і да тых членаў арцелі, якія недысцыплінаваны, сабаціруюць работай, або зусім ад яе адмаўляюцца.

Маецца шэраг выпадкаў нядобраякаснай работы, нядбайныя адносіны да калектыўнай маемасьці і ўсё гэта праходзіць міма кіруючай галоўкі арцелі. Партыйная ячэйка не рэагавала на гэтыя хваравітыя зьявішчы, недастаткова праводзіла масавую палітвыхаваўчую работу.

Між тым клясавы вораг ня сьпіць, скарыстоўвае кожны прабел у мэтах агітацыі супроць калгасу.

### Дрэнныя суседзі з адзінаасобнікамі.

Адным з вялікіх прабелаў у працы калгасу зьяўляецца—неналаджанасьць добрых узаемаадносін з адзінаасобнымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі. Партыйная ячэйка не паклапацілася прапрацаваць даклад і тэзісы т. Якаўлева на сваім адчыненым сходзе і калгасьнікі не орыентыраваны ў палітыцы партыі ў адносінах да адзінаасобных гаспадарак.

Некаторыя калгасьнікі і да гэтага часу маюць тэндэнцыі, каб не выдаваць з крамы дэфіцытных тавараў некалгасьнікам і наогул каб адмежаваць іх ад агульнага палітычнага жыцьця ў вёсцы. Рэдкія выпадкі, каб некалгасьнікі беднякі і серадні прысутнічалі на агульных сходах арцелі. Ня было і такіх выпадкаў, каб арцель аказала якую-небудзь дапамогу адзінаасобніку бедняку ці маламоцнаму серадняку, а такія гаспадаркі ў вёсцы маюцца.

Горш таго, каапэрацыя адчыніла сталыя дзіцячыя ясьлі і ў гэтых ясьлях няма ні аднаго дзіцяці якога-небудзь бедняка адзінаасобніка. Ясьлі разьлічаны на 25 дзяцей; штодзенна калгасьніцы прыносяць 17-18 дзяцей, а астатнія месцы зусім пустуюць. Зразумела, што тут галоўную адказнасьць за гэта нясе Расьнянскае спажывецкае таварыства, якое не дало дырэктывы загадчыцы ясьляў аб прыёму дзяцей і некалгасьнікаў. Некаторыя жанчыны адзінаасобных гаспадарак прасілі з плачам, каб прынялі іх дзяцей, але загадчыца ясьляў адмовіла, бо аб гэтым ёй не паказана. Наогул, трэба сказаць, што некалгасьнікі, якіх маецца ў вёсцы да 30 гаспадарак, адчуваюць сябе абмежаванымі ад калгасу.

Партыйная ячэйка павінна стаць ініцыятарам наладжваньня добрых узаемаадносін і быць сапраўдным кіраўнікам палітычнага жыцьця ў вёсцы.

Калгас „Чырвоны Факел“ за гадавіну свайго існаваньня ўзяў з бою шэраг буйных гаспадарчых пазіцый. Дробныя арганізацыйныя і гаспадарчыя пытаньні таксама трэба ўзяць з бою ў самы кароткі тэрмін. Тады праменьні „Чырвонага Факелу“ прывядуць у калгасы новыя сотні аднаасобных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

**Семянкоў.**

---

# За новае жыцьцё.

*(Шклоўскі раён).*

На плошчы 215 *га* пахаці і 15 *га* сенажаці вясной 1929 г. у вёсцы Серцьслаў, Гарадошчанскага сельсавету, арганізаваўся калгас „Прамень“. Калгас аб'ядная 25 гаспадарак, з іх батрацкіх 4, бядняцкіх 12, серадняцкіх 8 і 1 гаспадарка служачага (мясцовы настаўнік), а ўсяго 119 душ—працаздольных 60 асоб, а астатнія падросткі, старыкі і дзеці.

Вялікі ўдзел у арганізацыі калгасу прымала мясцовая партыйная ячэйка і самі актывістыя сяляне-бедякі.

З часу арганізацыі калгас мае вялікі рост за лік беднякоў і серадняков. Калгас паказаў перавагу калектыўнай гаспадаркі перад аднаасабовай і мае вялікія дасягненьні. Ураджай як азімых, так і яравых шмат лепшы за ўраджай аднаасабовых гаспадарак. Пасеў рабіўся ачышчаным насеньнем і на ўгноенай глебе мінэральным ўгнаеньнем. Плошча пахаці пад ярыной была пашырана за лік папару, а таксама плошча азіміны павялічана на 45 проц. у параўнаньні з мінулай.

У галіне жывёлагадоўлі калгас „Прамень“ будзе мець павялічэньне на 25 проц. за лік маючагася маладнака. Зараз рабочых коняй 23, кароў 26 і галоў каля 70 рознай дробнай жывёлы.

Маецца майстэрня з усім прыборам навейшае тэхнікі, плугоў „сухені і сака“—15, барон „зіг-заг“—8, 8 камплектаў, пружыновак 4, жняярак 2, сеялак 1, лушчыльнікаў 2 і інш.

Калгас „Прамень“ з працай спраўляецца. Уборку азіміны і сенажаці скончыў 10/VIII. Працу калгас вядзе плянава. Ва ўборачнай кампаніі, асабліва сенажаці, калгасу дапамагалі настаўнікі і студэнты, прыяжджаючыя ў адпачынак. К канцу справаздачнага году калгас будзе мець рост па ўсіх галінах як вытворчых, так і арганізацыйных на 25—35 проц.

Унутраны быт калгасу і арганізацыя працы пастаўлена вельмі добра. Доказам гэтага зьяўляецца тое, што з часу арганізацыі калгасу з боку сяброў ня было пропускаў у рабоце, а таксама ня было ніякіх адміністрацыйных узысканьняў.

Няпісьменныя калгасьнікі ліквідавалі сваю няпісьменнасьць на лікпункце. Выпісваецца шмат газэт і часопісаў. Паасобныя сябры калгасу састаяць слухачамі-студэнтамі сельска-гаспадарчай Акадэміі і ў вясну гэтага году адбывалі пры Горацкай С.-Г. Акадэміі практыку. Слухачамі зьяўляюцца ня толькі моладзь, а нават і старыкі-актывістыя. Калгас набыў аблігацый 3-га займу на 75 руб. і калектыўна пастанавілі набыць аблігацыі пазыкі „5 годка ў 4 гады“, акрамя таго маюцца паасобныя падпісчыкі на гэтую пазыку.

Форму аплаты працы калгас ужывае падзённую. За 10 гадзін працы падростку выплачваецца 60 кап., і самая большая—4 разрад—1 р. 14 кап., пры гэтым выплачваецца толькі палова, а другая палова застаецца да канца справаздачнага году.

Маюцца і недахопы ў калгасе, якія неабходна аднесьці да нашых кіруючых органаў, асабліва да Шклоўскага Райкалгассаюзу. Апошні вельмі мала зьвяртае ўвагі як у будаўнічым напрамку, так і арганізацыйным. Акаляючыя падкулачнікі ўтвараюць калгасу вялікія перашкоды ў разьвіцьці калгаснай гаспадаркі: патравы, самавольны засеў калгаснай зямлі і г. д. Прыяжджаў сакратар райкому, загадчык зем-

часткі і старшыня райкалгассаюзу, але прыезд іх застаўся прыездам, рашучага нічога ня прынялі супроць самаўласьнікаў. Калі ўзяць, напрыклад, сельскі суд, дык будзе каля 5—6 заяў калгасу аб іску за патраву на адных і тых-жа грамадзян, якія заяўляюць суду:

— Няхай яшчэ хоць і 10 разоў падаюць у суд заявы, усё роўна будзем травіць.

А суд трымае заявы бяз руху.

Для больш хутчэйшага разьвіцьця калгасу неабходна Шклоўскаму Райкалгассаюзу і мясцовым арганізацыям зьвярнуць асаблівую ўвагу на стварэньне належных умоў работы ў калгасе.

**Калгасьнік.**

---

# Вучот працы ў калгасах Аршанскага раёну.

Можна сьмела сказаць, што да апошняга часу арганізацыя працы, а разам з гэтым і ўнутры-гаспадарчы распарадак былі адным з самых адсталых, закінутых вучасткаў калгаснага будаўніцтва ў Аршанскім раёне. У штатах, існаваўшых да апошняе рэарганізацыі калгасна-каапэрацыйнае сыстэмы Райпаляводсаюзу і Раймалжывёлсаюзу, спэцыяльных адзінак па арганізацыі працы ў калгасах ня было. Такім чынам, уся гэтая праца ладзілася пасылкай Акркалгассаюзам інструкцыі Белкалгасцэнтра, калі ня лічыць рэдкіх наведваньняў інструктара, які па арг. працы быў адзін на акругу. Часткова дапамагалі працаўнікі і іншых былых Акрсаюзаў, аднак, паколькі арганізацыя працы зьяўляецца адным з найбольш складаных калгасных пытаньняў, патрабуючых не выпадковага, а сыстэматычнага і непасрэднага кіраўніцтва, атрымаліся значныя недахопы ў гэтай галіне. Арганізаванаму пасьля ліквідацыі акруговых установў Райкалгассаюзу прыдзецца ў большасьці калгасаў уводзіць зьдзельшчыну і ўстанаўляць тарыфікацыю.

З пытаньнем арганізацыі самым цесным чынам зьвязана форма вучоту працы.

Пры разьмеркаваньні ўраджаю дакладнасьць вучоту адыгрывае асабліва значную ролю і ўсялякія непаладкі ў сэнсе якасьці вучоту адбіваюцца балюча і выклікаюць шэраг непаразуменьняў сярод калгасьнікаў.

Вось чаму патрэбна, праводзячы разьмеркаваньне ўраджаю, жорстка крытыкаваць адсталыя формы вучоту і арганізацыі працы, замяняць іх больш правільнымі. Патрэбна да кампаніі па разьмеркаваньню ўраджаю далучыць кампанію па ўвядзеньні зьдзельшчыны і тарнай сеткі, пераключыць к пачатку наступаючага новага гаспадарчага году на новы лад вучот працы, там, дзе ён быў дрэнным. Ня гледзячы на тое, што зьдзельшчына, вучот ня толькі колькасьці, а і якасьці працы прызнаны найлепшымі формамі, да астатняга часу існуе цэлы шэраг розных мэтадаў вучоту, з якіх можна выдзеліць наступныя чатыры, найбольш частыя ў калгасах Аршанскага раёну:

1. Самыя звычайныя табелі з рэгістрацыяй працы палачкамі або крыжыкамі. Гэтая форма вучоту зьяўляецца найбольш адсталай. Тут нават колькасьць працы дасканала не падлічваецца.

2. Тыя-ж самыя табелі, толькі замест палачак-дзён ставяцца гадзіны, якія пры разьліку сумуюцца, дзеляцца на дзесяць і такім парадкам атрымліваюцца 10-гадзінныя працоўныя дні. У параўнаньні з першым гэты спосаб дае больш дасканалы падлік колькасьці працы.

Галоўным недахопам абодвых, пералічаных мэтадаў, зьяўляецца поўная адсутнасьць вучоту якасьці працы. Дзень касца і дзень, скажам, дарослага паганяльшчыка, або дняўнога вартаўніка—пры такой сыстэме зьяўляюцца аднолькавымі. Патрэбна рашуча зжываць гэтыя дзьве формы, як зусім няпрыгодныя.

3. Табель пры тарыфікаванай сетцы з улікам разраду і дзён.

4. Чацьвертая форма вучоту заключаецца ў тым, што табелі анулююцца і цалкам замяняюцца *талённай сыстэмай*, гэта значыць, што замест табеляў, ужываюцца талёны, якія выдаюцца ў канцы кожнага дню старэйшымі брыгадзірамі (можна саўмясьціць з нарадам на наступны дзень). На талёнах, акрамя №—пішацца прозьвішча працаўніка, работа, якую ён выконваў і лік гадзін. Тут-жа адзначаюцца спазьненьні і інш. парушэньні працоўнай дысцыпліны, а таксама і перавыкананьне нормы. У канторы застаецца або копія талёну, або карашок.



Будаўніцтва ў калгасе.

Які-ж вывад трэба зрабіць на далейшае? Бязумоўна, галоўную ўвагу прыдзецца зьвярнуць на ўвядзеньне зьдзельшчыны і на разьбіўку працы па разрадах. Арганізоўваючы брыгады па галінам і асобным працам, патрэбна будзе ўводзіць вучот па форме „табеля нарада“, у якім запісваецца заданьне, склад брыгады і выкананьне. Аднак, патрэбна адзначыць, што ўжываньне „табеляў-нарадаў“, як выключна адзіную сыстэму вучоту, асабліва гэта датычыцца калгасаў, дзе маецца значны недахоп працоўнай сілы. Па нашай думцы, у такіх калгасах, побач з брыгадным табелем, лепш за ўсё ўжываць талённую сыстэму, якая ў Аршанскім раёне дала найлепшыя вынікі. Галоўныя станоўчыя бакі талёнаў наступныя:

1) яны ўлічваюць даволі дакладна колькасьць працы;

2) якасьць працы таксама адзначаецца;

3) на талёнах можна адзначаць розныя парушэньні працдысцыпліны і перавыкананьне нормы. Пры атрыманьні талёну на рукі, калгасьнік бачыць, што дапушчаныя ім недахопы, так сказаць, дакумантальна зафіксаваны і таму талёны садзейнічаюць пад'ёму працдысцыпліны;

4) калгасьнік, маючы ў сябе талёны, можа заўсёды падлічыць свой лік працоўных дзён. Для рацыяналізацыі вучоту брыгадзір павінен мець 5 талённых кніжак розных колераў (дзе 5-разрадка) і кожны колер адпавядае якому-небудзь разраду. Пры такіх умовах, зусім упрашчаецца складаньне месячнай зводнай ведамасьці працоўных затрат.

**В. Самахвалаў.**

# УВАГА КАРМОВАМУ ПЫТАНЬНЮ

## Як ратавацца ад бяскорміцы.

*(З уласнай практыкі).*

З прычыны сухой вясны, марозаў і халоднага паветра ў пачатку ў гэтым годзе назіраецца на Аршаншчыне (і амаль па ўсёй БССР) нездавальняючы ўраджай травы і на сенажацях канюшыны.

А расьлін для сілосу некаторыя калгасы і зусім ня сеялі і ня маюць чаго сіласаваць, а пагэтаму і не прыгатаваліся для сіласаваньня. Кулак, карыстаючыся гэтым момантам, агітуе за продаж скаціны, а цэны за пуд сена падымае вышэй 1 р. 50 к.

Гэту бяскорміцу магчыма ліквідаваць і быць забясьпечаным кармамі на ўсе 100 проц. з лішкам.

У нас на БССР маецца пад рукамі вялізарная колькасьць кармоў, абы жаданьне, якое неабходна скарыстаць у сучасны момант. Шмат маецца ў нас, зарасьляй, кустоў, і дрэў ліставых розных парод, з якіх немагчыма скарыстаць дробнае маладое гальлё з лісьцем, парасьлі бягучага году. Абламваючы рукамі, абжынаючы сярпом, а вышэй абкашваючы касой, добра высушыўшы, скаціна з ахвотай паядае гальлё з лісьцем, асабліва вельмі карысна для авечак і трусоў. А галоўным чынам добра скарыстоўваць гальлё дрэвасіны на сілас.

Для гэтага карысна рабіць мешанку. У гаспадарках маецца шмат розных сьмяцьцёвых траў, атавы розных культур і падканюшыны, бульбоўніку і бацьвіньня, якое, пасьля ўборкі парэзаўшы на сіласарэзцы, засыпаюць у сіласную яму радкамі з дравясінай у 30 сантымэтраў markup rознага гатунку, або зьмешваюць у кучу перад засыпкай. І такім чынам, тым, што ў нас гінула даўней за нішто—у сучасны момант магчыма забясьпечыць скаціну добрымі харчамі на ўсю зіму.

Дасьледчык **А. Я. Акшэўскі.**

---

## Палепшаньне натуральных сенажацяй зьяўляецца важнейшым мерапрыемствам для разьвіцьця жывёлагадоўлі.

На Беларусі ёсьць шмат зямель, якія нерацыянальна скарыстоўваюцца, ці зусім не скарыстоўваюцца. Апрача балот і забалочаных зямель, якіх налічваецца 2.000.000 *га* і якія патрабуюць асушэньня — каранногa палепшаньня, ёсьць шмат сухадольных сенажацяй зарослых хмызьняком, куп'ём і мохам.

У некаторых раёнах Палесься нескарыстоўваемыя землі займаюць да 36 проц. агульнай плошчы. Сухадольныя сенажаці, якія займаюць значную плошчу, знаходзяцца ў надзвычайна дрэнным становішчы, зарасьлі куп'ём, хмызьняком, мохам і даюць вельмі нізкую ўраджайнасьць травы. Адзін гектар сухадольных сенажацяй дае ў сярэднім

ад 30 да 50 пуд. сена. Такое нерацыянальнае скарыстаньне натуральных сенажацяй, галоўным чынам, тлумачыцца тым, што справе караннога і павярхоўнага палепшаньня сенажацяй не аддавалася належнай увагі як з боку самога сялянства, саўгасаў і калгасаў, таксама і з боку сельсаветаў, РВК і спэцыялістых аграномаў, зоотэхнікаў.

Пры невялікай колькасьці культурнікаў, пры малой увазе да гэтай справы іншых спэцыялістых і нізавых савецкіх органаў, справа па палепшаньню сенажацяй пасоўвалася чарапашым крокам. З году ў год вызначаныя невялікія лічбы па вытворчаму пляну поўнасьцю ня выконваліся. А ў гэтым годзе амаль зусім нічога ня зроблена па палепшаньню сенажацяй, а патрэба ў гэтым надзвычайна вялікая. Ёсьць вялікія абшары сенажацяй, а к вясьне ў некаторых сялян, нават саўгасаў і калгасаў не хапае грубых кармоў, сена, і, як ня дзіка, некаторыя сяляне для пракармленьня жывёлы вымушаны зьдзіраць са стрэх салому. Усё гэта сьведчыць аб нядбайных адносінах да справы палепшаньня сенажацяй. Ёсьць варожыя кулацкія разважаньні, што кепскіх сенажацяй ніколі не палепшыш.

Але гэтым агітацыям трэба даваць належны рашучы адпор. Вопыт работы некаторых саўгасаў, калгасаў і паасобных бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак, якія займаліся павярховым палепшаньнем сенажацяй, паказаў, што зробленая работа па палепшаньню сенажацяй дала вялікія вынікі. Палепшаная сенажаць з першага году дала падвойны ўраджай сена і лепшай якасьці. Гэта мерапрыемства зусім простае, зусім даступнае, не патрабуе вялікіх затрат сіл і сродкаў і адразу дае вялікі эфэкт. Зьнішчэньне куп'я, хмызьняку і моху на сенажацях дае надзвычайна вялікі эфэкт, гэта кожнаму зразумела, што на месцы зьнішчанага куп'я моху — будзе расьці трава. Тым больш што за правядзеньне гэтай работы прадугледжана ільгота па сельскагаспадарчаму падатку (за аграмінімум) да 10 проц.

Для разьвіцьця жывёлагадоўлі неабходна стварыць кармавую базу. Побач з павялічэньнем пасеву траў, кораньплодаў, сіласаваньне— неабходна правесьці шырокую кампанію па палепшаньню сенажацяй. Трэба за гэтую справу ўзяцца пасапраўднаму, трэба дабіцца, каб кожны кавалак кепскай сенажаці даваў максымальную ўраджайнасьць, а гэтага можа дабіцца і трэба дабіцца. Трэба кожнаму саўгасу, калгасу, вытворчаму аб'яднаньню і індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, сенажаці, якія знаходзяцца ў карыстаньні, палепшыць. Справе палепшаньня сенажацяй павінны аддаць максымум увагі райземаддзелы, райкалгассаюзы, сельсаветы, аграномы, зоотэхнікі, культуртэхнікі, гідратэхнікі, правёўшы належную растлумачальную і практычную работу па арганізацыі саўгасаў, калгасаў і бядняцка-серадняцкага сялянства для работы па палепшаньню сенажацяй — арганізоўваючы сацыялістычнае спаборніцтва.

**Вайцэховіч.**

## Мабілізаваць калгасную грамадзкасьць на барацьбу за стварэньне кармавой базы.

## Калгасы за політэхнізацыю школы.

У сёлетнім годзе школы робяць рашучы пералом ад славеснай да політэхнічнай. Гэта значыць масавая школа 4-х і 7-годка школ павінна выпусьціць вучняў ня толькі ўмеючых чытаць і пісаць, але і падрыхтаваных працаўнікоў соцыялістычнага будаўніцтва, знаёмых з працэсам вытворчасьці як фабрык, заводаў—у горадзе, так і саўгасаў і калгасаў.

Каб вучань, скончыўшы школу, ведаў перавагі буйнае вытворчасьці ў параўнаньні з дробнай сельскай гаспадаркай і ўмеў працаваць на вытворчасьці саўгасаў і калгасаў.

Гэта магчыма зрабіць, калі школа будзе трымаць цесную сувязь з калгасамі і наадварот, калі ўся грамадзкасьць возьмецца дапамагчы настаўніку зрабіць школу палітэхнічнай.

Праўленьне калгасу і ўсе калгасьнікі павінны аказаць вялікую дапамогу настаўніцтву, каб сапраўды нашаму маладому пакаленьню даць палітэхнічнае выхаваньне. Магчыма, што прыдзецца акрамя гэтага аказаць і матэрыяльную дапамогу. Старшыням калгасу разам з настаўніцтвам патрэбна ўвязаць вытворчы плян калгасу з навучальным плянам школы з такім разрахункам, каб дзеці былі ўцягнуты ў колектыўнае будаўніцтва, дапамагалі выкананьню прамфінпляну, удзельнічалі ў клясавай барацьбе і г. д.

Праўленьне калгасу, праз брыгады, паляводаў, садаводаў, жывёлаводаў, трактарыстых і г. д. павінны дапамагчы вучням уявіць самы працэс работы. Школьнае зьвяно, прымацаванае брыгадзіру, павінна навучыцца таму, што гаворыць аб перавазе буйнае калектыўнае гаспадаркі над дробнай індывідуальнай, а таксама вывучыць тэхнічныя дасягненьні калгаса. Школьнае зьвяно, або група, будзе дапамагаць выконваць тую ці іншую працу, адпавядаючую дзіцячаму ўзросту, пад непасрэдным кіраўніцтвам брыгадзіра.

Праўда, нельга сказаць, што школа наогул будзе праводзіць культвыхаваўчую працу сярод калгасьнікаў. Адсюль патрэбная ўзаемная сувязь калгасьнікаў з школаю. Калі хоць гэта будзе зроблена, тады мы зможам сказаць, што школу перавядзем на рэйкі політэхнізму, і сапраўды выпусьцім працаўнікоў соцыялістычнага будаўніцтва, а гэтыя кадры пры рэканструкцыйным пэрыодзе нам патрэбны.

Г. Шумілаў.

---

**„Правядзеньне ўсеагульнага абавязковага першапачатковага навучаньня і ліквідацыі няпісьменнасьці павінна стаць баявой задачай партыі ў бліжэйшы пэрыяд“.**

(З рэзолюцыі XIV зьезду ЎсеКП(б).

# Пісьменнасьць—неабходная ўмова поўнага раскрэпашчэньня жанчыны.

## Работніцы і сялянкі, усе ліквідуйце няпісьменнасьць.

„Патрэбна памятаць, што правесьці электрыфікацыю нельга, калі ў нас ёсьць няпісьменныя.
У краіне няпісьменнай пабудаваць камуністычную грамаду немагчыма“ (Ленін).

Рэволюцыйныя тэмпы рэконструкцыі народнай гаспадаркі, шпаркі наступ соцыялістычных элемэнтаў па ўсяму фронту, усё ўзрастаючы актыўны ўдзел працоўных у соцыялістычным будаўніцтве, з кожным днём усё вайстрэй і вастрэй ставяць перад працоўнай грамадзкасьцю пытаньне максымальнага ўздыму культурна-палітычнага ўзроўню працоўных мас „і ў першую чаргу ліквідацыю няпісьменнасьці“.

Выключна важнае значэньне набывае ліквідацыя няпісьменнасьці сярод працоўнай жанчыны. У спадчыну ад мінулага, процант пісьменных, якіх мы атрымалі, зусім незначны і жанчына на сёньняшні дзень складае асноўны кадр няпісьменных у БССР.

Паводле дадзеных перапісу ў 1926 годзе, няпісьменнасьць сярод жанчын складае 72,2 проц. і яе актыўная частка, г. зн. ва ўзросьце ад 12 да 35 год.—54,6 проц., у той час, калі сярод усяго працоўнага гэтага ўзросту складала 36 проц., або 806.294 чал. няпісьменных.

Гэты малюнак, застаўшыся ў спадчыну пралетарыяту і працоўнаму сялянству—„культуры“, ад панаваньня абшарнікаў капіталістых, ад тысячагодзьдзяў эканамічна-бытавога закабаленьня жанчыны: сям'ёй, кухняй, пральней, эканамічнай залежнасьці ад мужчыны і г. д.

Культурная адсталасьць, няпісьменнасьць у дадзены час зьяўляецца вялікай перашкодай у соцыялістычным будаўніцтве.

Вялікая армія няпісьменных на сёньнешні дзень ня мае асноўнага сродку—агульнатэхнічнай, палітычнай адукацыі, падрыхтоўкі для таго, каб быць сьвядомым і актыўным барацьбітом за соцыялізм і практычным удзельнікам у яго будаўніцтве.

У. І. Ленін ня раз падкрэсьліваў, што „няпісьменны чалавек стаіць па-за палітыкай, яго з пачатку трэба навучыць пісьменнасьці. Бяз гэтага ня можа быць палітыкі, бяз гэтага ёсьць толькі чуткі, плёткі, байкі, забабоны, а не палітыка“.

XVI зьезд ЎсеКП(б) і XIII зьезд КП(б)Б у сваіх пастановах адзначылі, што ліквідацыя няпісьменнасьці зьяўляецца сьцержнявым пытаньнем культурнае рэвалюцыі, што ліквідацыя няпісьменнасьці зьяўляецца актуальнейшым пытаньнем сёньнешняга дню і пастаўлена ў якасьці „баявой задачы Партыі ў бліжэйшы час“.

Выходзячы з гэтых задач, ЦВК і СНК БССР паставілі практычную задачу ліквідацыі няпісьменнасьці сярод усяго працоўнага насельніцтва ва ўзросьце ад 12 да 45 год на працягу 1930-31 і 1931-32 г.г. У першую чаргу ліквідаваць няпісьменнасьць сярод ударных соцыяльных груп насельніцтва: рабочых, сябраў профсаюзу на працягу 1930 г., рабочых саўгасаў і батракоў і дапрызыўнікаў—1909 году і 1910 г. нараджэньня на працягу 1930-31 г. і сярод астатняга насельніцтва на працягу 1931-32 г.

Гэта задача ў сваю чаргу патрабуе значна большага пераламу ў працы па ліквідацыі няпісьменнасьці, прыстасаваньні яе да соцы-

яльна-нацыянальных, культурна-бытавых умоў жыцьця і працы, асабліва працоўнай жанчыны, якія складаюць асноўны кадр няпісьменных. У складзе жанчын мы маем у 3 разы больш няпісьменных, чым сярод мужчын. Дзеля практычнага выкананьня пастаўленай задачы неабходна шырока мабілізаваць нявычарпальную энэргію працоўных мас і ўцягнуць іх у практычную працу пад баявым лёзунгам: „Кожны пісьменны павінен навучыць аднаго няпісьменнага". „Неабходна дабіцца таго, каб кожнае „ўдарнае прадпрыемства, цэхі і паасобныя брыгады ня толькі былі-б ударныя ў вытворчых адносінах, а былі-б ударнымі ў правядзеньні палітмасавай работы, удзелу ў вытворчых нарадах, ліквідацыі няпісьменнасьці". (З рэзалюцыі XIII Зьезду КП(б)Б).

Тэмпы работы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных жанчын характарызуюцца наступнымі лічбамі:

| ГАДЫ | Усяго скончыла ліквпунктаў | З іх у %% | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|
| | | муж. | жан. | |
| 1926—27 . . . | 39.031 чал. | 52,5 | 47,5 | У 1927-28 г. процант скончыўшых лікпункты жанчын узяты сярэдні ахопу ў першым і апошнім. |
| 1927—28 . . . | 39.339 „ | 47 | 53 | |
| 1928—29 . . . | 67.750 „ | 41,3 | 58,8 | |
| 1929—30 . . . | 169.103 „ | 35,5 | 64,5 | |

За 1929-30 г. шырока разгарнулася сетка лікпунктаў, груп, а таксама і мэтад індывідуальнага навучаньня. Усяго па БССР налічвалася—10.000 лікпунктаў і груп, з якіх пры саўгасах і калгасах было 1.047 л/п. Былі ўтвораны, па даўшым зьвесткам, Менскай, Гомельскай і Аршанскай (былых акруг) 57 батрацкіх лікпунктаў і па Гомельскай, Мазырскай і Аршанскай (былых акруг) было ўтворана спэцыяльных 215 жаночых лікпунктаў. Гэтыя лічбы сьведчаць, па-першае, што „працоўныя імкнуцца да ведаў, таму, што яны неабходны для перамогі". (Ленін).

Другімі словамі кажучы: мы дасягнулі ўжо таго, што кожны няпісьменны ўявіў сабе значэньне ліквідацыі няпісьменнасьці і вядзе барацьбу за пісьменнасьць. Гэта галоўная ўмова для пасьпяховага выкананьня задачы ліквідацыі няпісьменнасьці і заканчэньня яе ў карацейшы тэрмін—5-цігадовы плян — у 3 гады. Гэтыя лічбы таксама яскрава паказваюць, што пытаньне ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўнай жанчыны пачынае займаць усё большае і большае месца ў працы партыйна-камсамольскіх, савецкіх, коопэрацыйна-профэсіянальных організацый, што з году ў год павялічваецца ахоп жанчын лікпунктамі, што павялічваецца процант пісьменнасьці і, што праца па ліквідацыі няпісьменнасьці пачынае прыстасоўвацца да ўмоў і асаблівасьцяй працы жыцьця жанчыны. Гэта першы крок у барацьбе за пісьменную жанчыну.

Аднак, сучасныя тэмпы соцыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, тэмпы перабудовы жабрацкай краіны ў краіну соцыялістычную, патрабуюць усё большага, хутчэйшага і рашучага пералому ў працы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод работніцы і працоўнай сялянкі.

Да гэтага часу мала было зьвернута ўвагі партыйна-савецкай грамадзкасьцю на ўтварэньне неабходных умоў на поўнае забесьпячэньне наведваньня жанчынамі лікпунктаў.

Неабходна прыняць усе меры ў практычнай працы да пагалоўнага ўцягненьня няпісьменных жанчын—работніц, сяброў профсаюзаў, грамадчыц, дэлегатак у організуючыяся лікпункты трэба арганізоўваць спэцыяльныя лікпункты для жанчын, утвараць пры лікпунктах дзіцячыя пакоі і іншыя дашкольныя ўстановы, вылучыць грамадчыкаў—культармейцаў з пісьменных жанчын, якія вялі-б працу сярод работніц і сялянак па ліквідацыі няпісьменнасьці. У тых выпадках, калі жанчыны ня будуць мець магчымасьці наведваць арганізаваныя лікпункты, неабходна праводзіць заняткі з імі ў сьвяточныя дні, патрэбна шырока прыстасаваць мэтад індывідуальнага навучаньня.



**Калгаснае стада кам. ім. 12 зьезду КП(б)Б. Талочынскі раён.**

У сваёй працы камсамольскія ячэйкі, і піонэр-атрады, фабзавмясцкомы, культурна-бытавыя камісіі калгасаў павінны вылучыць камсамолак, старэйшых піонэрак, работніц-калгасьніц для абслугоўваньня дзяцей у вячэрнія часы ў дзіцячых пакоях тых матак, якія ліквідуюць сваю няпісьменнасьць. У гэтым напрамку НКА, ЦК камсамолу, Белкалгасцэнтр, ЦСПСБ з 1/IX па 1/XII аб'явілі 3-месячны паход за пісьменнасьць, які павінен зьявіцца зброяй у барацьбе за пісьменнасьць, за падняцьце тэхнічнай, палітычнай і агульнай адукацыі. У час 3-месячніку неабходна ўцягнуць усю пісьменную масу жанчын да практычнай работы па ліквідацыі няпісьменнасьці. Мабілізаваць працоўную грамадзкасьць на вырашэньне актуальнейшай задачы соцыялістычнага будаўніцтва—ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўнай жанчыны, як неабходнай умовы поўнага раскрэпашчэньня работніцы і сялянкі.

**Тышкевіч,**
**Сьцепанюк.**

# Социялістычны абмен вопытам у сельскай гаспадарцы.

Зварот ЦК УсеКП(б) 3-га верасьня, рашэньне Саўнаркому СССР аб рэалізацыі прапаноў і вынаходзтве, ставіць задачай забясьпечыць хуткае і поўнае скарыстаньне творчай ініцыятывы, мабілізаваць усе сілы працоўных на ліквідацыю асобных прарываў мінулага гаспадарчага году і забесьпячэньня праграмы трэцяга году пяцігодкі, як у галіне прамысловасьці, так і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

У мэтах шырачэйшага сацыялістычнага абмену вопытам у сельскай гаспадарцы, аддзел прыстасаваньня Ўсесаюзнага Інстытуту імя Леніна ў Менску, сумесна з рэдакцыямі газэт: „Беларуская Вёска“, „С.-г. Рабочы“ і часопісу „Шляхі Калектывізацыі“, арганізоўвае ўсебеларускі агляд дасягненьняў у соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі з вучотам рацыяналізатарства як паасобным момантам тэхнікі, так і арганізацыі буйнае сацыялістычнае гаспадаркі.

Усебеларускі сацыялістычны абмен вопытам у сельскай гаспадарцы па Інстытуту Сьвінагадоўлі будзе праводзіцца пераважна ў 67 раёнах з жывёлаводчаскім напрамкам, які павінен:

а) зрабіць даступным шырокай савецкай грамадзкасьці работ і дасягненьняў лепшых саўгасаў і калгасаў;

б) вызначыць асобныя рацыяналізатарскія прыёмы як у частцы тэхнікі, так і арганізацыі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, з мэтай зрабіць іх дасягненьнямі масы саўгасаў і калгасаў;

в) даць новы наглядны матар‘ял аднаасобным бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам перавагі буйнай калектыўнай гаспадаркі;

г) дапамагчы Навукова-дасьледчаму Інстытуту скарэктаваць свае праграмы і пляны бліжэй да сапраўдных запатрабаваньняў сацыялістычнай вытворчасьці;

д) стаць грунтам для шырокага плянавага разгортваньня масавага вопытніцтва ў сельскай гаспадарцы;

е) арганізаваць сустрэчны плян у сельскай гаспадарцы ў мэтах паскарэньня вызначаных тэмпаў і падвышэньня якасьці працы;

ж) вызначыць канкрэтныя вучасткі страт у сельскай гаспадарцы і практычныя шляхі барацьбы з імі.

Практычна сацыялістычны абмен вопытам у сельскай гаспадарцы ў час абвяшчэньня трохмесячніку *з 10-га кастрычніка па 10-е студзеня 1931 г.* праводзіць у такім парадку:

а) У Менску, пры Сьвінагадоўчым Інстытуце арганізоўваецца штаб сацыялістычнага абмену вопытам у сельскай гаспадарцы ў складзе: 1) Работнікаў Інстытуту і Наркамзему. 2) Прадстаўнікоў рэдакцый: „Беларуская Вёска“. „Чырвоная Зьмена“, „С.-г. работнік“ і „Шляхі Калектывізацыі“. 3) Прадстаўнікоў ЦК КП(б)Б, ЦК ЛКСМ і ЦБ Піанэраў. 4) Прадстаўніка БРК с.-г. і лясных рабочых. 5) Прадстаўнікоў Белкалгасцэнтру, Сьвінатрэсту і БСТ. 6) Прадстаўніка Наркамасьветы.

б) У раёнах складаецца камісія пры Райземаддзеле з прадстаўнікоў Земчасткі, Райкома КП(б)Б, Райкалгассаюза, Райаграномаў, прадстаўнікі саўгасаў, рабочага с.-г. і лясных рабочых і ЛКСМ.

в) Пры саўгасах і калгасах вызначаецца ў спэцыяльныя камісіі, працуючыя пры вытворчых нарадах, шэраг таварышоў, на абавязках якіх будзе ляжаць зьбіраньне рацыяналізатарскіх прапаноў з боку ра-

ботнікаў саўгасаў і калгасаў і вучот маючыхся дасягненьняў і накіраваньне гэтых магар'ялаў для друку як у цэнтральны, так і мясцовы. Камісіі ўстанаўліваюць непасрэдную сувязь з раённай камісіяй і бюро пры Сьвінаводным Інстытуце.

г) „Беларуская Вёска", „Чырвоная Зьмена", „С.-г. рабочы" і „Шляхі Калектывізацыі" адчыняюць з кастрычніка г. г. спэцыяльны аддзел „Сацыялістычны абмен вопытам у сельскай гаспадарцы", дзе друкуюцца карэспандэнцыі саўгасаў, калгасаў, навукова-дасьледчых установаў і асобных асоб аб маючыхся ўжо дасягненьнях як у частцы тэхнікі, так і арганізацыі буйнай сацыялістычнай гаспадаркі.

д) У „Дзень Ураджаю і Калектывізацыі" трохмесячнік знаходзіцца ў сяродку ўвагі і максымальна папулярызуюцца, вярбуюцца карэспандэнты-рацыяналізатары для цэнтральнага друку.

е) Аддзел прыстасаваньня Інстытуту зьбірае і распрацоўвае, як усе карэспандэнцыі, надрукованыя ў цэнтральным і мясцовым друку, так і непасрэдна ім атрыманыя. Аднасова, у межах спэцыяльнасьцяй—спэцыялісты сьвінаводнай станцыі распрацоўваюць асобныя тэмы, якія друкуюцца і дасылаюцца ў штаб.

ж) Бюро штабу пры Сьвінаводным Інстытуце з 15 па 25 студзеня праводзіць выстаўку карэспадэнцыі аб лепшых дасягненьнях і рацыяналізацыі саўгасаў і калгасаў з ілюстрацыямі, фота-здымкамі, дыяграмамі, модэлямі і абрэзамі.

Для ацэнкі прэміраваньня лепшых калгасаў і саўгасаў, а таксама аўтараў і асобных работнікаў рацыяналізатараў, арганізоўваюцца спэцыяльныя камісіі „журы" на чале Народнага Камісара Земляробства тав. Рачыцкага.

Аддзел прыстасаваньня арганізоўвае канфэрэнцыю прадстаўнікоў калгасаў і саўгасаў, маючых лепшыя дасягненьні як у частцы рацыяналізатарскай арганізацыі, так і тэхнікі буйнай сацыялістычнай гаспадаркі.

Канкрэтнымі тэмамі ўсебеларускага агляду дасягненьняў у соцыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі і вучоту с.-г. рацыяналізатарства ў першую чаргу выяўляецца:

а) Арганізацыя с.-г. вытворчасьці па сьвінагадоўлі, б) самая лепшая арганізацыя працы ў саўгасах і калгасах, в) максымальнае скарыстаньне трактараў і с.-г. машын у саўгасах і калгасах; г) максымальнае і рацыянальнае скарыстаньне коняй; д) самы рацыянальны транспарт; е) самая лепшая пабудова сьвінарнікаў, кухань і інш. па сьвінагадоўлі ў саўгасаў і калгасах; ж) самая лепшая кармушка і стойла; з) самы лепшы вучот (менш паперы, валакіты, даступнасьці кожнаму).

## Агратэхніка.

1) Колькасьць атрыманага маладняку ў сярэднім на матку і якасьць маладняка (сярэдняя вага парасяці ў 2 м-цы); 2) выкананьне пляну сьвінагадоўлі і сустрэчнае плянавае меркаваньне; 3) правільная пастаноўка кармленьня (як корміцца, колькасьць і якасьць корму), дагляд і ўтрыманьне; 4) скарыстаньне адкідаў у гаспадарцы; 5) шляхі паляпшэньня жывёлы; 6) спосабы павышэньня прадукцыйнасьці і таннасьці сьвініны; 7) лепшы сілас; 8) якая паша ўжываецца для сьвіней; 9) самая прадукцыйная матка (большая колькасьць астаўленьня парасят к моманту адняцьця парасят); 10) лепшае скарыстаньне зямлі і

лепшымі расьлінамі (высокі ўраджай, запраўка); 11) новыя каштоўныя глебы і ўраджайныя культуры; 12) самыя рацыянальныя спосабы барацьбы з с.-г. шкоднікамі і рознымі хваробамі; 13) лепшы гноясхоў; 14) новыя с.-г. машыны.

### Агрыкультурная работа саўгасаў і калгасаў.

1) Лепшая прапаганда буйнай сацыялістычнай гаспадаркі і арганізацыі ў калгасе аднаасобнікаў—беднякоў, серадмякоў. Аградапамога акаляючым у сельскай гаспадары. 2) Самае лепшае разгортваньне масавай вопытнай работы і рэалізацыя вынаходзтва і г. д.

### Арганізацыйныя формы асваеньня трохмесячніку сацыялістычнага абмену вопытам у сельскай гаспадарцы.

А. *Раённае бюро.*

Раённае бюро, атрымаўшы гэтае распараджэньне, на працягу пяці дзён накіроўвае ў саўгасы і калгасы матар'ялы для арганізацыі працы па трохмесячніку ў гаспадарцы. К 20 кастрычніка даюць першыя зьвесткі аб праведзенай працы і дасылаюць сьпіс і адрас каму накірован матар'ял.

Раённае бюро праз ад'яжджаючых таварышоў па правядзеньню „Дню Ўраджаю і Калектывізацыі" арганізоўвае праверку ўяўленьня задач 3-х месячніку гаспадаркамі і прымае крокі для ўстанаўленьня сувязі з імі.

У канцы кастрычніка ў кожным раёне пры буйных гаспадарках склікаюцца нарады, на якіх дэталёва абгаварваюцца задачы сацыялістычнага вопыту ў сельскай гаспадарцы і вызначаюцца шляхі далейшай працы. На нарадах лепшы вопыт прымаецца для пашырэньня масы гаспадарак.

Вытвараючыя нарады пратвараюцца ў асяродку папулярызацыі дасягненьняў у аграмаджаным сэктары з мэтай большага ўцягненьня ў калгасы бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі.

Раённыя бюро праз сваіх членаў спэцыялістых і мясцовы актыў дапамагаюць гаспадаркам арганізаваць справу папулярызацыі 3-х месячніку.

Раённыя бюро правяраюць матар'ял, атрыманы з гаспадарак, даюць ацэнку, не пазьней 10 студзеня 1931 году накіроўваюць у Менск, у Сьвінаводны Інстытут.

Б. *Камісіі ў гаспадарках.*

Пры атрыманьні матар'ялу ў саўгасах і калгасах вылучаюцца камісіі, якія зьбіраюць матар'ял, вызначаны на тэмы ў пункт 4 гэтай інструкцыі.

Камісія ў калгасе і ў саўгасе павінна даць заданьне асобным таварышом і дабіцца, каб яны сапраўды добра прапрацавалі матар'ял (да прыкладу арганізацыі працы—тут трэба ўлічыць, як арганізована, якія station станоўчыя бакі, як падняць вытворчасьць, зьнізіць сабекошт і г. д.).

Кожнаму таварышу трэба вызначыць групу тэм (арганізацыя працы, максымальнае скарыстаньне коняй, трактароў і г. д.).

Калі тэма будзе зьвязана з скотнымі дварамі, то яе вызначыць асобна (кармленьне асобна, гадоўля маладняку асобна і г. д.).

Арганізоўваючы абмен вопыту камісіі, сапраўды пазнаёміцца з маючыміся дасягненьнямі, мажлівасьцямі і скарыстоўваючы ўсё лепшае для практычнага ажыцьцяўленьня ў сельскай гаспадаркі.

Камісіі прапрацоўваюць пытаньні, высунутыя 3-х месячнікам соцыялістычнага абмену вопытам у сельскай гаспадаркі і з усёй рашучасьцю ставяць канкрэтныя задачы па пашырэньні сьвінаводзтва і наогул жывёлагадоўлі ў саўгасах і калгасах, уцягваючы ў гэта бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі.

Аб першых кроках сваёй працы камісія знаёміць рабочых калгасаў і саўгасьнікаў, скарыстоўваючы насьценгазэту і адсылае матар'ял у цэнтральныя газэты і часопісы.

Прадметам шырокай прапрацоўкі павінны зьявіцца пастановы ЦК УсеКП(б) ад 3 верасьня і ЦК КП(б)Б.

Камісіі павінны скарыстаць усе шляхі, каб уцягнуць у гэту працу ўсіх вынаходцаў, актыў у гаспадарках, якія прапрацоўвалі тыя ці іншыя тэмы і якія на сёньня трэба перадаць у гаспадарку для хутчэйшага выкананьня плянавых паказчыкаў.

Камісіі ў гаспадарках сваю работу заканчваюць *к 1-му студзеня 1931 г.* і дасылаюць увесь матар'ял у Раённае бюро.

На чале гэтага агляду ў гаспадарках павінны стаць рабачкомы ў саўгасах і праўленьне ў калгасах сумесна з камсамолам. Дзеля таго, каб апісаньне рацыяналізатарскіх прац, умоў і дасягненьняў у сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі задавальняла задачам сацыялістычнага абмену вопытам у сельскай гаспадарцы і аб'яўленага конкурсу, *патрэбна прытрымлівацца* у *апісаньні наступнай схэмы:*

1) Назва саўгасаў і калгасаў; 2) адрас; 3) што было да апісаньня рацыяналізатарства; 4) апісаць неабходна, у чым заключаецца гэта рацыяналізатарства ці дасягненьне; 5) назваць прозьвішча ці становішча ў вытворчасьці, ці ініцыятараў і арганізатараў дасягненьня; 6) падлічыць эканамічную (гаспадарчую выгаднасьць); 7) зрабіць вывады з пэрспэктывай на будучае і мажлівасьць данае дасягненьне скарыстаць іншымі саўгасамі і калгасамі.

Пажадана, каб адначасова былі прыкладзены здымкі і дыяграмы, дапамагаючыя разуменьню апісваемага рацыяналізатарства.

Карэспандэнцыю заверыць праўленьнем мясцовага калгасу, сельсаветам, ці рабачкомам саўгасу.

**Усе матар'ялы дасылаюцца—**
**Менск, Сьвінаводны Інстытут.**

---

**Выявіць лепшыя саўгасы і калгасы для таго, каб іх дасягненьні, іх вопыт перадаць другім.**

# Што такое вэтмінімум, і як яго праводзіць.

(*Канец* [1]).

*Вэтэрынарны мінімум у каапэраваных гаспадарках.* У нас зараз з кожным днём расьце процант каапэраванага і аб'яднанага ў калгасы насельніцтва. Жывёлагадоўчая каапэрацыя Беларусі „Белмалжывёлсаюз“ лічыць для гэтай часткі абавязковым правядзеньне цэлага шэрагу іншых вэтэрынарных мерапрыемстваў, накіраваных да барацьбы з хваробамі жывёлы.

Да ліку іх належаць: недапушчэньне продажу і забою на мяса хворай жывёлы без дазволу вэтурача, недапушчэньне рабочых, даглядаючых за хворай жывёлай, да здаровай жывёлы, сталыя агляды стада, ачыстка скаціны ад кляшчукоў, забарона паеньня скаціны з агульных вёдзер, уключэньне пытаньня вэтэрынарыі ў праграмы культасьветработы і інш.

Усе гэтыя меры, намечаныя жывёлагадоўчай каапэрацыяй, яшчэ больш, яшчэ лепш забясьпечваюць хутчэйшае зьнішчэньне заразьлівых хвароб. Таму яны і зьяўляюцца абавязковымі для колектыўных гаспадарак. Яшчэ больш павялічваюцца патрабаваньні вэтмінімуму, у параўнаньні з паказанымі, для жывёлагадоўчых саўгасаў і калгасаў. Правядзеньне ў жыцьцё гэтых патрабаваньняў у жывёлагадоўчых гаспадарках павядзе таксама і да падняцьця прадукцыйнасьці стада.

### Што прадугледжвае вэтмінімум для надрыхтоўчых арганізацый.

Пляны нарыхтовак скаціны і жывёлавай сыравіны на мясцох павінны быць загадзя дасланы нарыхтоўчымі арганізацыямі вэтнагляду, каб можна было-б сваячасова накіраваць на сэзон загатовак неабходную колькасьць вэтурачоў.

Загатавіцелі павінны зараз-жа спыніць у даным пункце нарыхтоўкі скаціны і жывёлавай сыравіны, калі там зьявілася якая-небудзь заразьлівая хвароба і гэты пункт абвешчаны небясьпечным па заразе. Загатавіцелі павінны паклапаціцца, каб на базах, дзе зьбіраецца шмат скаціны і жывёлавай сыравіны, былі-б спэцыяльна прыстасаваныя памяшканьні для ўтрыманьня жывёлы і хаваньня сырых жывёлавых прадуктаў.

Пры паяўленьні ў нарыхтаванай партыі жывёлы падазроных захворваньняў, неабходна зараз-жа аддзяліць хворых і выклікаць вэтурача для ўстанаўленьня хваробы і прыняцьця мер барацьбы з ёю. Пры загатоўках скаціны шляхам кантрактацыі яе, неабходна ў дагаворах прадугледзець, што ўласьнік закантрактаванай жывёлы абавязаны выконваць усе правілы вэтэрынарнага нагляду. Ён павінен загадзя зрабіць жывёле прышчэпкі супроць тых хвароб, якія сустракаюцца ў даным пункце, правільна трымаць і карміць жывёлу і сваячасова звярочвацца за вэтэрынарнай дапамогай і інш.

Вось тыя вымаганьні, якія прадугледжвае вэтмінімум для нарыхтоўчых арганізацый.

---

[1]) Пачатак гл. у № 9 (15) „Ш. К.“.

## Што павінны рабіць транспартуючыя організацыі.

Пры перавозцы жывёлы і сырых жывёлавых прадуктаў і невыкананьні вымаганьняў вэтэрынарнага надзору можна завезьці заразу ў іншыя мясцовасьці.

Наглядаліся таксама і такія выпадкі, калі нагружаная ў вагон здаровая жывёла захворвала ў дарозе з прычыны таго, што ў гэтых-жа вагонах перавозілася заразная жывёла.

Таму зразумела, якое вялікае практычнае значэньне мае правільная пастаноўка вэтнагляду за пагрузкай і выгрузкай і за жывёлай, якая знаходзіцца ў дарозе.

Пры перавозцы жывёла не толькі можа распаўсюджваць заразьлівыя хваробы на далёкую адлегласьць, але яна і траціць у вазе, вельмі часта задыхаецца ў вагонах, прыбывае пабітая, кульгавая і г. д. Усё гэта бывае ад невыкананьня правілаў перавозак. Вось чаму ў вэтмінімуме ўказваецца неабходнасьць захаваньня органамі НКШЗносін правілаў з вэтнадзору. Важнейшыя з гэтых правілаў наступныя:

1) Нельга вытвараць пагрузку жывёлы на станцыях, якія знаходзяцца ў раёнах, дзе наглядаюцца заразьлівыя хваробы.

2) Да пагрузкі дапушчаецца толькі тая жывёла, на якую маецца пасьведчаньне аб тым, што яна загатоўлена ў мясцовасьці, у якой няма навальных заразьлівых хвароб, агледжана вэтурачом і прызнана здаровай.

3) Трэба сачыць за гэтым, каб вагоны, прызначаныя для пагрузкі жывёлы, былі ачышчаны і дэзынфэкаваны.

4) Калі ў дарозе здарылася захворваньне, неабходна зараз-жа паведаміць аб гэтым чыгуначнай адміністрацыі. На бліжэйшай станцыі дзе ёсьць вэтрач, жывёла аглядаецца і ў залежнасьці ад выяўленага захворваньня прымаюцца неабходныя меры.

Для захоўваньня ў дарозе ўсіх правілаў вэтнадзору, неабходна, каб усе чыгуначныя агенты і праваднікі жывёлы ведалі-б гэтыя правілы і як іх праводзіць.

## Пераможам хваробы жывёлы.

Паказаныя ў вэтмінімуме патрабаваньні датычацца мясцовых органаў улады, саўгасаў, калгасаў, арганізацый—прамысловых, нарыхтоўчых і вядучых перавозкі.

Толькі актыўны ўдзел у правядзеньні вэтмінімуму органаў улады, усіх паказаных організацый і шырокіх бядняцкіх і серадняцкіх мас сялянства забясьпечыць посьпех у справе барацьбы з заразьлівымі хваробамі жывёлы.

Калгасьнікі, беднякі і серадпякі вёскі—усе на барацьбу з хваробамі жывёлы, усе за хутчэйшае правядзеньне вэтмінімуму.

Вялізарныя страты ад хвароб жывёлы вымагаюць рашучай барацьбы з імі.

Недапушчальна, каб нашыя маладыя калгасы і жывёлагадоўчыя саўгасы затрымліваліся ў сваім росьце, а часамі і руйнаваліся з-за хвароб жывёлы.

Трэба з карэньнем вырваць гэтага ворага, які пакінуты нам у спадчыну ад цёмнага мінулага.

Вэтэрынарны доктар М. Жарын.

# Да ведама вытворцаў і атрымацеляў сартавога насеньня.

На ўсе партыі сартавога і таварна-сартавога зярна, якое выдаецца як насенны матар'ял пасеўшчыкам, павінны мець сартавыя пасьведчаньні. Усе пасеўшчыкі, якія атрымоўваюць насенны матар'ял для рэпрадукцыі і контрактацыі,—павінны патрабаваць сартавыя пасьведчаньні.



Збор гародніны ў саўгасе „1-га мая".

Арганізацыі, якія адгружаюць насенны матар'ял, павінны карыстацца ніжэй прыкладзенай інструкцыяй і абавязкова да кожнай партыі прыкладаць сартавыя пасьведчаньні. Для сартавога зярна—пасьведчаньне белага колеру, для таварна-сартавога — жоўтага. У сартавых пасьведчаньнях абавязкова павінны быць запоўнены ўсе графы бяз пропускаў. Нявыдача сартавых пасьведчаньняў пазбаўляе адправіцеля атрымаць надбаўкі засортнасьці і зярно расцэньваецца як палепшанае радавое. Адказнасьць за выдачу сартавых пасьведчаньняў нясуць насеннаводныя арганізацыі.

Зацьвярджаю. Нам. Наркома Земляробства Паніматко.

16-VIII—30 г.

## Інструкцыя аб выдачы і карыстаньні сартавымі пасьведчаньнямі на сартавое і таварна-сартавое насеннае зярно.

1. Сартавое і таварна-сартавое насеннае зярно павінна мець сартавыя пасьведчаньні, якія сьведчаць аб пахаджэньні, назьве сорта, % сортнасьці, або тыпічнасьці зярна.
2. Сартавыя пасьведчаньні служаць адзінымі дакумэнтамі для атрыманьня надбавак за сортнасьць.
3. Сартавое, альбо таварна-сартавое зярно, якое ня мае сартавых пасьведчаньняў, расцэньваецца як звычайнае.

4. Сартавыя пасьведчаньні выдаюцца на сартавое насеннае зярно для самаапылкаваценяй, маючых 95 проц. сартавой чыстаты і вышэй. Дзеля крыжаапылкаваценяй I і II катэгорыі па тыпічнасьці.

5. На таварна-сартавое зярно пасьведчаньні для самапылкаваценяй, маючых % сартавой чыстаты ад 95 да 90 проц. і дзеля крыжаапылкаваценяй III катэгорыі па тыпічнасьці.

6. Выдачу сартавых пасьведчаньняў вытвараюць: 1) Дасьледчыя станцыі, 2) Насентрэст, 3) Белсельтрэст, 4) Сьвінтрэст, 5) Ільна-Пенькатрэст, 6) Белпаляводсаюз, 7) Калгасцэнтр.

7. Вышэйпаказаныя арганізацыі маюць права перадавераць выдачу сартавых пасьведчаньняў зьвеньням сваёй сыстэмы на мясцох. Правам на перадавер'е могуць карыстацца толькі тыя гаспадаркі сыстэмы, якія маюць агранома, подпіс якога на пасьведчаньні абавязкова.

8. Сьпісы гаспадарак, якім перадаверана выдача сартавых пасьведчаньняў, павінны быць накіраваны Кантр. Насен. Станцыям з вызначэньнем асоб, якія будуць падпісваць пасьведчаньні.

9. Грунтам для выдачы сартавых і таварна-сартавых пасьведчаньняў служаць: акты апрабацыі і рэгістрацыі пасеваў, дадзеныя грунтавога і лябараторнага аналіза, акты амбарнай апрабацыі, выдадзеныя кантрольна-насеннымі станцыямі з іх заключэньнем.

10. Blянкі сартавых і таварна-сартавых пасьведчаньняў выдаюцца вытворчым арганізацыям Кант. Насен. станцыямі ў прашнураваным і апячатаным выглядзе і Кантр. Насен. Станцыі вядуць ім вучот.

11. Кантроль за правільнай выдачай сартавых і таварна-сартавых пасьведчаньняў, канчатковы іх вучот і справаздача на ім ускладаецца на Кантрольна-Насенныя Станцыі.

12. Усе арганізацыі, атрымаўшыя сартавыя і таварна-сартавыя пасьведчаньні павінны весьці точны іх вучот. Карашкі выдадзеных пасьведчаньняў на насен. матар'ял мінулага году здаюцца арганізацыямі на Кантрольна-Насенныя станцыі не пазьней 1-VI наступнага году, празсвае органы ўпраўленьня.

13. Сартавыя пасьведчаньні выдаюцца на кожную адгружаемую партыю зярна. Калі маюцца дадзеныя фізычнага аналізу, дык яны прадстаўляюцца на адвароце пасьведчаньня.

14. Пры прыёме і захаваньні сартавое зярно павінна ссыпацца па асобным групам і сортам. Дзеля яравых культур у адну групу з сортнасьцю 95—100 проц., другую групу 90—95 проц.

Дзеля азімых I група 95—100 проц., II група 90—95 проц., III група 80–90 проц.

15. Пры памылковым зьмяншэньні партый розных сартоў у момант іх ссыпкі дзеля захаваньня сартавое пасьведчаньне адбіраецца, складаецца адпаведны акт, да якога прыкладаецца пагашанае пасьведчаньне, указваючы № пасьведчаньня і зярно ў далейшым ідзе як палепшанае.

16. Пры перавозках, разьмеркаваньнях і інш. апэрацыях павінна ў кнігах, фактурах, сэрціфікатах, чыгуначных накладных прадстаўляцца сортнасьці, назва сорту, разьмер партыі, раён паходжаньня на падставе сартавога пасьведчаньня, указваючы № пасьведчаньня і дату.

17. Неправідловая выдача сартавых пасьведчаньняў выклікае прыцягненьне вінаватых да судовай адказнасьці.

18. На зярно абязьлічанае выдаюцца сартавыя і таварна-сартавыя пасьведчаньні з надпісам на падсьведчаньнях „зярно—абязьлічанае“.

## ВЫПІС САРТОЎ,

на якія выдаюцца сартавыя і таварна-сартавыя пасьведчаньні.

### Азімая пшаніца.

1) Маскоўская 2453, 2) Высокалітоўская.

### Авёс.

1) Лохава—Пяткоўскі, 2) Залаты Дождж, 3) Пабеда.

### Ячмень.

1) Вінар, 2) Лебядзіная Шыя, 3) Залаты.

### Азімае жыта.

Пяткоўскае, Вятка.

*Увага.* На авёс Залаты Дождж і ячмень Залаты выдаюцца таварна-сартавыя пасьведчаньні з сортнасьцю ад 80 проц.

2. На сартавое зярно браніруемых сартоў у гэтым годзе жыта Іванаўскае, Прабштэйскае, Шацкае, авёс Швэцкі, ячмень Чэхаславацкі выдаюцца таварна-сартавыя пасьведчаньні толькі з указаньнем сорту і адметкай аб прызнаньні кандыцыённым па ізоляцыі, дзеля крыжапылкавацеляй, а дзеля самаапылкавацеляй указываць і проц. сортнасьці.

Інспэктар Дзяржнасенфонду **Чэмелаў.**



**Ачыстка насеньня ў калгасе імя Сьвярдлова (Рагачэўска Жлобінскі раён).**

# На першай Усебеларускай.

*(З блёкноту экскурсанта).*

Лясны павільён зьмяшчаецца насупроць самой тэрыторыі выстаўкі, на другі бок дарогі.

Каля брамы—прыгожы кветнічак, далей лясны гадавальнік, дзе на прыгожых градках растуць маладыя дрэўцы розных парод і рознай велічыні. Самы павільён прадстаўляе сабою невялічкі белы будынак, у якім зьмяшчаюцца экспонаты лясной гаспадаркі: розныя матар'ялы, макеты гонкі плытоў, асаблівасьці росту дрэў і г. д. Тут разьмешчаны графічныя матар'ялы і карты, картаграмы, дыяграмы, якія паказваюць разьвіцьцё нашай лясной гаспадаркі. Даволі поўна прадстаўлены паляўнічы аддзел.

Па-за павільёнам пад невялікай паветкай мы ўбачылі вялізныя дубовыя кражы і іншыя лесаматар'ялы. Гэта—наш экспарт.

На некаторых дрэвах, што растуць вакол павільёну, паказана некалькі відаў падсочкі.

Далей пад павецьцю ў спэцыяльных клетках знаходзяцца жывыя экспонаты—розныя лясныя зьверы і птушкі. Мы некалькі хвілін пастаялі каля клеткі, любуючыся ляснымі жыхарамі. Каля клеткі з мядзьведзем сабраліся хлапчукі і, аж кладуцца ад сьмеху, гледзячы як нязграбна разлушчвае ён дадзеную яму цукерку. Паглядзелі ваўка, палюбаваліся на лісаў і дзікую казу, агледзелі птушак.

— Ну хадзем, таварышы, хадзем далей,—падштурхвае нас правадыр,—яшчэ ў нас сёньня шмат работы.

Згодна маршруту-пляну, які мы выпрацавалі ў сябе ў інтэрнаце, мы павінны былі зайсьці ў самы канец выстаўкі—у павільён „мэханізацыі і электрыфікацыі". Гэты павільён мы потым, калі ўвечары зьвярталіся ў інтэрнат, убачылі з гораду. Мы доўга глядзелі з гары, што супроць дзяржаўнай бібліотэкі, як мігцеў агнямі гэты вялізны павільён.

Вось і павільён. З гары ўніз бягуць вялікія літары, складаючы словы: „мэханізацыя", „электрыфікацыя".

Уваходзім.

Перад намі экспонаты вытворчасьці Ленінградзкага электратэхнічнага заводу „Электрасіла". Вось ртутны выпраміцель магутнасьцю ў 250 кілёват, які ператварае пераменны ток у сталы, вялізныя масьляныя выключацелі, якія разьлічаны на ток высокага напружаньня ў 14.000 і ў 22.000 вольт. Макет турбо-гэнэратару і іншыя складаныя электрамашыны.

— Раней мы ўсё гэта атрымоўвалі з-за граніцы, са Швэцыі, а зараз вырабляем на сваіх заводах,—кажа тлумач.

— А што-ж гэта на слупах тут зроблена?—пытаецца адзін з нашай групы.

— Гэта копія тыповай падстанцыі магутнасьцю ў 10 кілёват. Гэта падстанцыя здольна абслугоўваць пасёлак ў 100 сямей. У калгасах, якія будуць карыстацца токам Асінбуду, будуць устаноўлены гэткія падстанцыі.

У аддзеле машынізацыі сельскай гаспадаркі нас асабліва зацікавілі машыны, якія прызначаны для буйнай гаспадаркі. Тут мы ўбачылі вялізную малатарню „Серп і Молат" вырабу Харкаўскіх заводаў. Боль-

шую частку машын, дзякуючы іх велічыні і цяжару, нельга было паставіць у павільёне і яны зьмешчаны пад асобнай павецьцю па-за павільёнам. Тут стаяць трактары рознай магутнасьці, малатарні, зерначышчальнікі, сеялкі, жняяркі і іншыя. Некаторыя найбольш вялікія машыны стаяць проста на дварэ, пакрытыя ад дажджу брэзэнтам. Тут-жа ў шатры прадаецца розная літаратура і даюцца патрэбныя даведкі.

Калі скончыцца выстаўка, у павільёне мэханізацыі і электрыфікацыі будзе машына-спробная станцыя.

Накіраваліся ў аддзел жывёлагадоўлі, які разьмешчаецца ў некалькіх павільёнах. У сьвінарніках мы ўбачылі добрых завадзкіх сьвіней розных парод. Асабліва спадабаўся кныр „Турк", узгадаваны заслаўскімі прымежнікамі. Жывая вага яго вызначаецца лічбаю каля 400 кілёграм.

У аборах для рагатай жывёлы мы знайшлі прадстаўнікоў усіх парод, якія ёсьць у БССР. Тут былі і рабыя „галанкі", і бураватыя „швіцы", і прадстаўнікі сэмэнтальскай пароды. Адна абора амаль цалкам запоўнена мясцовымі гатункамі буйнай рагатай жывёлы. Значнае месца тут займае чырвоная беларуская парода. Пры падборы экспанатаў жывёлагадоўлі, як відаць, значная ўвага адводзілася палепшанньню мясцовых гатункаў, шляхам скрыжаваньня іх з чыстакроўнымі завадзкімі. Ва ўсіх аборах, побач з чыстакроўнымі гатункамі можна ўбачыць мэтысаў ад мясцовых і завадзкіх гатункаў. Добрая якасьць мэтысаў служыць лепшым доказам за неабходнасьць паляпшаць мясцовыя гатункі.

Аглядаючы аддзел жывёлагадоўлі, мы зьвярнулі ўвагу і на пабудову самых абораў, на расстаноўку жывёлы, пабудову кармушак. Усё гэта зроблена ўзорна і дае асаблівую карысьць экскурсантам-калгасьнікам.

— Вось гэткую абору мы распачалі будаваць у сваім калгасе,—кажа сівы калгасьнік з Магілеўшчыны, калі мы ўваходзілі ў вялізную чатырохрадную абору для кароў.

Потым аглядзелі коняй, якія разьмяшчаюцца ў двох павільёнах, зайшлі ў трусоўню, агледзелі авечак, коз...

Шмат цікавага знайшлі мы ў павільёне земляробства. У гэтым павільёне сканцэнтраваны вынікі работ розных дасьледчых станцый, па вырашчваньню палявых культур. Увесь гэты павільён завешаны дыяграмамі і экспанатамі. У невялічкіх торбачках прадстаўлены ўзоры насеньня. Адразу пры ўваходзе ў павільён разьмешчаны экспанаты Горацкай сельска-гаспадаркай дасьледчай станцыі. З дыяграм і экспанатаў мы даведаліся аб уплыве розных угнаеньняў, пры розных кліматычных і глебавых умовах на ўзрост збожжа і траў. У асобным кутку паказаны асобныя гатункі бульбы, якія даюць найлепшы ўраджай у Аршаншчыне і Магілеўшчыне.

Віцебская сельска-гаспадарчая дасьледчая станцыя ў сваіх экспанатах адвяла значную ўвагу вапнаваньню глебы, Турская — паляпшэньню лугоў, Палеская—культуры асушаных балот і тарфяным угнаеньням. Далей ідуць экспанаты Новазыбкаўскай сельска-гаспадарчай станцыі, цэнтральнай агра-хэмічнай ляботарыі, дзе робяцца дасьледваньні розных мінэральных угнаеньняў і інш.

Бачыце, як прыгожа надрукавана „Ахова расьлін"—зьвярнулася да мяне суседка па групе.

— Дзе?

— А вунь... — кінула яна ў бок аддзелу цэнтральнай дасьледчай сельска-гаспадарчай станцыі.

— Сапраўды прыгожа,—згадзіўся я.

— Вы думаеце, што гэта надрукавана,—умяшаўся нашу гутарку малады хлапец з заводу,—вы добра ўгледзьцеся ў гэтыя літары, якімі фарбамі яны зроблены.

Паглядзеўшы больш уважліва, мы ўрэшце разгледзілі таемныя „фарбы“ літараў. Аказваецца, што ўвесь надпіс зроблены з розных жужалаў, жукоў, матылёў і іншых казявак-шкоднікаў нашых палёў, садоў і гародаў. Усе гэтыя казяўкі ў пэўным парадку прыколаты да паперы і разам складаюць досыць прыгожую і надзвычайную надпіс.

Аддзел пад гэтым загалоўкам высьвятляў пытаньні барацьбы са шкоднікамі. Крыху ў баку—невялічкі аддзел барацьбы з суслікамі. У драцяной клетцы сядзіць некалькі гэтых, падобных на мышэй, зьвяркоў. Наогул, аддзел барацьбы са шкоднікамі асьвятлён даволі поўна, і гэта мае вялікае значэньне, на мясцох у нас барацьба з імі праводзіцца недастаткова яшчэ.

У павільёне масавых экспанатаў ральніцтва, мы аглядзелі прадукты ральніцтва, якія былі прадстаўлены па былым акругам. Тут сабраны снапы азімых і яравых расьлін, насеньне іх, караньплоды і клубняплоды, травы і наогул узоры ўсіх палявых расьлін нашых саўгасаў і калгасаў. Тут-жа зьмешчаны аддзел аграданамогі. На палёх выстаўкі мы потым агледзелі парадак севазваротаў і досьледы пасеваў розных культур па розных угнаеньнях.

У „Вэгетацыйным доміку“ мы агледзелі шэраг расьлін, якія пасаджаны ў спэцыяльных пасудзінах з ацынкаванай бляхі. Тут адбіваецца цалкам усё жыцьцё расьлін, яе патрабаваньні да глебы, вільгаці, цяплыні, спажыўным матэрыям і інш. У „вэгетацыйным доміку“ знаходзіцца каля 1000 узорных расьлін. Пасудзіны з расьлінамі пастаўлены на асобныя пляцформы, якія па меры патрэбнасьці і пры адпаведным надвор'і можна выкачваць па пракладзеным рэйкам на двор.

Нашу групу зацікавіла і сама пабудова гэтага доміку, для якога патрабавалася два асноўных матар'ялы: жалеза і шкло.

Павільён тэхнічных культур знаходзіцца некалькі ўбаку ад выстаўкі. Агледзеўшы „вэгетацыйны домік“, пахадзіўшы паміж градкамі севазваротаў, мы накіраваліся ў гэты павільён.

На сьценах павільёну тэхнічных культур разьвешаны пучкі лёну, канаплі і іншых тэхнічных расьлін, дыяграмы, якія адбіваюць разьвіцьцё тэхкультур па асобным культурам і плякаты—картаграмы, дзе пералічаны шкоднікі палёў і г. д. У экспанатах павільёну адбіваецца і тэхніка апрацоўкі і ўзрашчваньне гэтых расьлін, пачынаючы ад самай першапачатковай ручной і канчаючы машыннай апрацоўкай, якая разьлічана на буйную калектыўную гаспадарку.

Дапатопная ручная ільнамялка—раськярэка, зробленая з балотнага карча побач з двухвальнымі і трохвальнымі машынамі—ільнамялкамі вырабу разанскіх заводаў ільнатрапацель заводу „Пскоўскі мэталіст“ і іншымі машынамі, якія зараз шырока ўжываюцца ў нашых ільнаводных саўгасах і калгасах,—наглядна паказваюць экскурсанту перавагу буйнай калектыўнай гаспадаркі над аднаасабовай.

— Папрацавалі мы на гэтых карчох,—кажа калгасьніца з Віцебшчыны, паказваючы на старадаўнюю ільнамялку, але трасцу, больш ня будзем, сёлета і ў наш калгас прыбудуць новыя машыны.

І калгасьніца-экскурсантка ласкава пагладзіла рукой валец разанскай ільнамялкі.

— Во дзе наша сіла—машына.

Не пакінулі мы бяз увагі сады і агароды выстаўкі.

У гэтай галіне такі шырокі размах, што даганяе ўсесаюзную выстаўку 1923 году. Пад садам выстаўкі занята 6 гг зямлі. Экспанаты садоўніцтва паказаны такім чынам, што яны даюць поўны малюнак таго, што было ў нас у гэтай галіне раней, што ёсьць цяпер і што павінна быць далей. Ад ранейшых мешаных садоў, дзе кожнае дрэва было рознага гатунку, мы зараз пераходзім да садоў калектыўна-прамысловых. Садовая гаспадарка на выстаўцы паказана ў трох сэктарах: калгасах, саўгасах і аднаасабовых гаспадарках. З агульнай расстаноўкі экспанатаў відаць будучыня аднаасабовых садоў: яны адамруць, але іх месца зоймуць буйныя і карысныя сады, засаджаныя стабілізаванымі гатункамі вакол саўгасаў і калгасаў. Гэтыя сады дадуць шмат карыснай прадукцыі для чалавека.

Значная ўвага адведзена і гароднай справе. На адведзеных дзялянках сабраны амаль усе гатункі гародніны. Тут ёсьць звыш 50 гатункаў гуркоў, каля 30 гатункаў капусты, 24 гатункаў морквы, 25—гарбузоў, 63 гатункі буракоў і г. д.

На асобных пляцоўках паказаны пладазьмен гародніны: што і як і пасьля чаго трэба садзіць.

У павільёне, які пабудаваны каля аддзелу садоўніцтва і гародніцтва, паказаны камбінат па тэхнічнай пераапрацоўцы садовіны і гародніны. Камбінат падзяляецца на тры цэхі. У першым — паказана некалькі відаў вытворчасьці безалкагольных натуральных пладова-ягадных і гароднік сартоў. Другі цэх прадстаўляе з сябе фабрыку-кухню, трэці—пладова-ягадны выраб віна.

У павільёне пчалярства мы даведаліся, як штучна выпрабляецца вашчына. Гэтая галіна сельскай гаспадаркі павінна заняць адно з першачарговых месц у нашых калгасах. Вядома, што калгас „Камінтэрн“ Самахвалавіцкага раёну сёлета купіў сабе трактар за мёд, які сабраў ён з 90 вульляў сваёй пасекі.

У павільёне „Праца і Быт“ мы зьвярнулі ўвагі на тыя дасягненьні, што зроблены нашым урадам у галіне аховы працы і прывіцьця новага быту працоўным. З дыяграм мы даведаліся аб пашырэньні ролі дамоў адпачынку, курортаў і санаторый.

Далей мы абышлі павільёны друку, МЦРК, пошты і тэлеграфу, імпарту і экспарту і іншыя.

Выстаўка—гэта ня толькі падлік нашых дасягненьняў,—гэта адначасна і вялікая школа будучыні—вось агульная думка нашай групы.

— Тут мы шмат атрымалі і гэта атрыманае мы пастараемся перадаць нашым калгасьнікам, якім не давялося пабываць самім на выстаўцы—гэта наша задача.

Тыя тры дні, што мы адбылі на выстаўцы, не прайшлі дарэмна. Усё новае карыснае, што мы тут убачылі, мы па меры нашых сіл будзем ажыцьцяўляць у нашых калгасах.

Мы прыкладзем усе сілы, каб зрабіць свой калгас узорнай гаспадаркай з навукова пастаўленай і арганізаванай працай—з гэтай думкай мы пакінулі выстаўку, з гэтай думкай, якая ператварылася ў цьвёрды намер, мы разьехаліся.

**Янка Капыток.**

# БІБЛІЯГРАФІЯ

**Эдварт Шыперка—„Што зрабіла Менская Балотная Станцыя для ўздыму сельскае гаспадаркі БССР“.**

*Менск, Белдзяржвыдавецтва—1930 г., стар. 60, цана 25 к.*

Зараз кожнаму вядома, што аніякага сацыялізму без навукі пабудаваць нельга. Таксама, як нельга будаваць навукі адарвана ад задач сёньняшняга як гаспадарчага, так і культурнага будаўніцтва. Кніжка Эдварда Шыперкі—дакумэнт, дзе наяўна паказана неабходная сувязь навуковых дасягненьняў Цэнтральнай Дасьледчай Балотнай станцыі з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва БССР.

2.660.000 *га* балот і забалочаных абшараў мае БССР. Балоты і забалочаныя месцы складаюць 21,2 процанты ад агульнай тэрыторыі Савецкай Беларусі. Балоты займаюць 58 процантаў ад агульнай плошчы ральлі, пахаці.

Зусім адгэтуль відавочным і зразумелым зьяўляюцца тыя вялізарныя ўкладаньні па пяцігадоваму пляну ў справу мэліорацыі, якія робіць урад. За пяцігодку асыгнавана ўкласьці ў мэліорацыю 50.000.000 руб., ці па 10.000.000 штогодна.

Вядома, бяз добра наладжанай навукова-дасьледчай справы, зусім нельга было-б праводзіць такія вагромністыя, нябачаныя работы па мэліорацыі. Уся работа мэліараваньня вялікіх балотных масываў (Мар'іна і г. д.) праводзілася на базе навуковых досьледаў і вопытаў.

Задачай аўтара кніжкі было: а) паказаць нашай савецкай грамадзкасьці, як наша савецкая навука і адно з яе зьвеньняў Балотн. Дасьл. Станц. змагаецца, каб пераtварыць мільёны гектараў балот у квітнеючыя палі; б) паказаць савецкай грамадзкасьці тыя вагромністыя магчымасьці, што заложаны ў нашых балотах і якія можна выкарыстаць для нашага бурнага сацыялістычнага будаўніцтва.

Толькі ў такім разрэзе трэба падыходзіць да ацэнкі работы аўтара. Трэба адразу адказаць:—аўтар з гэтымі задачамі справіўся. Кніжка ў дастатковай меры (паколькі дазваляе яе памер) высьвятляе галоўныя пытаньні. Чытач зможа атрымаць прыблізна поўны малюнак работы станцыі ў справе культуры балот; зможа атрымаць уяўленьне аб нашых вялікіх работах у галіне мэліорацыі, што праводзіцца на базе навуковых досьледаў, дасягненьняў. Кніжка добра ілюстравана фота-здымкамі і дыяграмамі (больш 20 малюнкаў). Адна загана—Выдавецтву трэба было выдаць на лепшай паперы, бо ілюстрацыі атрымаліся на такой паперы зусім цьмяна.

**Барыс Зыбніч.**

---

*Кіпрыянец К.*—**„Асеньні выраб глебы пад яравыя“**

*Б. Д. В., Менск. 1930 г., стар. 70, цана 15 кап.*

Наш друк шмат піша аб плянах пяцігодкі. На старонках газэт, а таксама ў спэцыяльных малых і вялікіх кніжках багата можна сустрэць матар'ялаў, па асобных галінах пяцігадовага сацыялістычнага будаўніцтва. Зразумела, такую справу трэба толькі вітаць. Шырокія пласты працоўных павінны быць самым падрабязным чынам інфармаваны, азнаёмлены аб задачах, магчымасьцях і цяжкасьцях сацыялістычнага будаўніцтва, бо самі-ж працоўныя на практыцы, пад кіраўніцтвам камуністычнае партыі, заўзята, напружана, мэтадам сац. спаборніцтва і ўдарніцтва ператвараюць у жыцьцё генэральны пяцігадовы плян гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Але разам з гэтым нельга не зазначыць на факт недахопу адпаведных, папулярна-масавых кніжок, дзе па канкрэтнаму паказвалася-б вырашэньне кожнай з праблем нашага будаўніцтва. Недахоп падобнай літаратуры асабліва адчуваецца ў сельскагаспадарчай галіне.

Аўтар брашуры „Асеньні выраб глебы пад яравыя“, як відаць, на працягу ўсяе кніжкі імкнуўся паказаць ня толькі вынікі, эфэкт такога важнага мерапрыемства—асеньні выраб глебы пад яравыя, але ён матар'яламі, адпаведнымі дадзенымі, паказаў, як, якімі сродкамі, якім парадкам рабіць і практычныя вынікі ад гэтага важнага агрыкультурнага мерапрыемства. Селянін цікавіцца ня толькі тэхнікай, парадкам правядзеньня, але яго ня менш цікавіць пытаньне, у якіх суадносінах гэтае мерапрыемства знаходзіцца з практычнай карысьцю. На працягу ўсяе кніжкі аўтар адпаведным чынам увязаў гэтыя два пытаньні.

Кніжку т. Кіпрыянца трэба раіць як надзвычайна каштоўную ў сельскай гаспадарцы. Яе трэба мець ня толькі практычнаму выканаўцу працы калгасніку, бедняку і серадняку вёскі, але і кожнаму, хто так ці інакш мае стыкацца з сельскай гаспадаркай, да агры-культурнай прапаганды. Асеньні выраб глебы павінен стаць масавым мерапрыемствам як нашых калгасаў, а таксама і паасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

**Н. Нарычыцкі.**

---

# Усім райкалгассаюзам і калгассэкцыям.

У сувязі з пастулаючымі з месц запытаньнямі аб парадку разьмерканьня ўраджаю і прыбыткаў ад канфіскаванай кулацкай маёмасьці, на падставе дадатковых тлумачэньняў НКЗ і Калгасцэнтру СССР, НКЗБ і Белкалгасцэнтр растлумачваюць:

5-проц. фонд для разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі, адпаведна абагуленай маёмасьці, распаўсюджваецца таксама і на канфіскаваную кулацкую маёмасьць. У адпаведнасьці з гэтым п. 2 лісту Белкалгасцэнтру, апублікаванага ў газэце „Зьвязда“ за 19-е ліпеня і „Савецкая Беларусь“ за 20-е ліпеня выкладаецца ў наступнай рэдакцыі:

„Пасьля падлічэньня і зацьверджаньня даходаў калгасаў ад ураджаю і абагуленай малочнай жывёлы, у тым ліку ад канфіскаваных кулацкіх пасеваў і малочнай жывёлы, робяцца адлічэньні ў 5-проц. фонд для разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі адпаведна кошту ўнесенай у калгас маёмасьці.

Гэтае 5-е адлічэньне распаўсюджваецца таксама і на маёмасьць, унесеную старымі калгасьнікамі і канфіскаваную ў кулацкіх гаспадарак. Налічэньне, прыпадаючае на долю канфіскаванай кулацкай маёмасьці, разьмяркоўваецца паміж батрацкіх і бядняцкіх гаспадарак—членаў калгасу. У тым выпадку, калі сума адлічэньняў, прыпадаючая батракам і беднякам большая, чым прыпадае серадням, у такіх выпадках трэба са згоды Калгасцэнтру разьмеркаваньне налічэньняў рабіць не на ўсю суму кулацкай маёмасьці, а на тую частку чыстага прыбытку ад кулацкіх пасеваў, якая павінна запісвацца на паі батракам і беднякам“.

Нам. Нармкамзема БССР **Масюкоў.**

Старшыня Праўленьня Калгасцэнтру БССР **С. Міцькоў.**

---

## П А П Р А Ў К А.

У артыкуле т. С. Тупяневіча—„Бараццьба з сажаю на збожжы“ (№ 10 „Ш. К.“) укралася памылка. На стар. 39, 3-ці радок зьнізу надрукавана: „100 гр.“, а трэба чытаць—„**100 кгр.**“, на гэтай-жа старонцы, 10-й радок зьнізу надрукавана „хромнік“, а трэба чытаць—„**хромпік**“.

---

Рэдакцыя—**Рэдкалегія.**

# ЗЬМЕСТ

Стар.



## Саўгаснае будаўніцтва.



## Шырэй фронт калектывізацыі.



## Увага кармоваму пытаньню.



## Асьветнік на фронце калектывізацыі.

ЦАНА 40 КАП.





НА ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Часопіс сацыялістычнага земляробства і агранамізацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

ЧАСОПІС

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.**

ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікам калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На год | 2 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў | 1 р. 10 к. |
| На 3 м-цы | 60 к. |
| Паасобны нумар | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15⁰/₀ пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б
Тэлефон 17-15.

Менск, друк. БДВ. Зак. № 2561. 10.000. (3¹/₄ арк.) Галоўлітбел № 2820.